ды, і сонца прыпякае, і бяжыць проста ў вусны дробная рабізна... чаму б і не?

— Малярова, ты куды? — крыкнула ёй дачка з кухні — там сядзеў яе чарговы кавалер, піў каву зь вяршкамі ды чырванеў. — Ты надоўга?

Зьвязка ключоў прыняла навічка неахвотна. Седзячы ў душным таксі, Дара спрабавала выклікаць у памяці твар Воршына, але замест твару зьяўляліся то неспакойныя рукі, заўсёды ў кішэнях пінжаку (Дара згадала, што напачатку іх сустрэчаў яе не пакідала ўражаньне, што Воршын мусіць перадаць ёй нейкую забытую рэч), то ягоныя „ды...", „гэтае самае...". Ну добра, пачнем з валасоў, хаця Воршын, відаць, ужо аблысеў — валасы ў яго былі кучаравыя й доўгія... зубы... зубы кепскія... Дару ўражвала, зь якой хуткасцю ў тыя дні старэў Воршын: штодня ягоны лоб трэскаўся новымі зморшчынамі, зубы крышыліся, нібы Дара прыносіла яму ня смажаных куранятаў, а іх муляжы. Сэкс забіваў Воршына напавал — гледзячы на яго, голага, здышлівага, Дара пачувалася прафэсыйным баксёрам. Арганізм Воршына, напэўна, вырашыў выканаць жыцьцёвы плян ударнымі тэмпамі. Якім ён быў у яе — пятнаццатым, дваццатым? ...Што прымушала яе калісьці стрымгалоў ляцець у гэты дом ля трамвайнага прыпынку? Бруд пад ягонымі пазногцямі? Вечнае маўчанне, якое яшчэ больш падкрэсьлівалася часовымі прыступамі мармытання — якраз у той момант, калі Дара пачынала міжволі з павагаю думаць пра ціхмянасьць свайго каханка? Воршын умеў стварыць вакол сябе пустату, і натуральныя пытанні Дары павісалі ў ёй, ператвараючыся ў нешта недарэчнае й глупае. Не, ствараць вакол сябе пустату ніколі не было для Дары вартым талентам. Што ж яе прымушае шукаць цяпер кволае, хворае рэха мінулага?

Воршын... так і ня ўцяміўшы, навошта яна апынулася тут, Дара сунула грошы бязтвараму таксісту, выйшла, ліха бразнуўшы дзьверцай, глыбока ўдыхнула сінеючае паветра й рушыла праз трамвайныя пуці. Узбуджэньне яе, радасна-незразумелае, саступіла мейсца разгубленасці: як жа жонка, якая з магчымай ды неабавязковай стала цяпер вельмі нават верагоднай — чамусьці яна ўяўлялася Дары тоўстай і малочнай, у спартовых нагавіцах, грубай, як жывое ўвасабленьне „га?!!!", хаця Дара разумела, што ў гэткай бруднай карціне ёсьць штрыхі і яе ўласнай самаацэнкі. А новы замок? Макс кінуў ёй нядаўна: „Старэеш", — і праўда, усё менш жывучымі станавіліся гэтыя яе „Чаму б і не?", для якіх раней не існавала аніякіх межаў і перашкодаў, якія калісьці запальвалі ўсё спрэс, уключаючы калегаў, редактароў, палкоўнікаў і палюбоўнікаў.

На ашчэранае разьбітым шклом вакно на другім паверсе Дара не зьвярнула ўвагі, перад пад'ездам запаліла, спытала адну з бабулек, якія нібыта чакалі яе зьяўленьня й цяпер густа павылазілі на пусты двор з бытовак, хмызьнякоў і альтанак дзіцячай пляцоўкі: „Скажыце, а...", але потым узмахам рукі адпусціла расчараваную Басьцінду і ўвайшла ў пад'езд.

З нарастаючым кайфам яна адчула, як ключ звыкла лёг у расхістанае ўлоньне замка. Моцна, па-транспартнаму прыціснуўшыся да дзьвярэй, прычыніла іх — кнопка на сьцяне ня выдала нічога, акрамя сухога шчаўчка. Сьвятла не было... пахла старасьцю, мышынымі кутамі ды мокрымі анучамі. Пад нагамі ціха зарыпелі пясчынкі, перадаючы адна адной па ланцугу: госьць, госьць, госьць... Кожны крок Дары па вітальні адгукваўся камэнтарамі схаваных у сутонні рэчаў: коратка раўнуў плінтус, прачыталі нешта скарагаворкай адчыненыя дзьверы прыбіральні, горача зашаптала цыноўка, папярхнуўся сваім недаразьвітым набатам загадкавы званочак за сьпіной. Воршын, несумненна, усё яшчэ жыў тут, і жыў, па ўсім відаць, адзін, — на цьвіку вісеў ягоны пінжак. Цемра надыходзіла зь незвычайнай хуткасьцю, Дары давялося раз-пораз пстрыкаць запальнічкай, якая дапамагала рабіць розныя адкрыцці — яны яшчэ больш заблытвалі Дару: зьнікненьне з кухні пліты ды лядоўні, безьліч цэляфанавых пакетаў пад нагамі, ад трэску якіх мярзотна зачасалася патыліца. Кватэра Воршына, асьвятляемая кароткімі ўспышкамі запальнічкі, нагадвала жабрака, які тыча ў свае шматлікія язвы, задзіраючы кашулю ды прыспускаючы нагавіцы. У пакоі запальнічка дзіўным чынам адразу ж выхапіла колішні падарунак Воршыну — пакрыты ліпучым пылам цацачны палац з каралём ды каралеваю. Падпарадкоўваючыся празе ўдзелу ў ціхім існаваньні гэтага памяшканьня, у нетаропкай гульні ценяў, якія ажывалі навокал па яе прыхамаці, Дара нахілілася і ўжо амаль абпаленымі пальцамі асьцярожна адламала каралеву ды сунула ў кішэню джынсаў — кароль застаўся стаяць між калёнаў, трымаючы ў руцэ запясьце супругі.

Станьце маімі цёплым і хатнімі тапачкамі, дошкі падлогі, стань ваўняным халатам, хуткая, нібы толькі выбягала заплаціць за электрычнасьць, цемра ... стань ... стань на калені, Дара, стань Сястрою, гэты дом і ты ў пакоі — ня больш за працу ветра.

Яна скінула плашч і швэдар, задуменна ўзялася за гузік джынсаў, з разьбітага вакна ўдарыла холадам. Плястмасавая каралева ў кішэні заварушылася, гузік на джынсах раптам вырваўся з пальцаў, пругка скочыў наперад жывот. Дара прадзела мезенец у завушніцу на

ім... было гэткае адчуванне, што на яе з вакна нехта заахвочвальна глядзіць.

Нечакана — Дара ўвабрала ў сябе паветра, жывот спалохана шмыгнуў пад рэбры — сонны жаночы голас недзе на ўзроўні яе каленаў прашалясцеў фразаю на дзіцячай незразумелай мове, рыпнула, заенчыла, і зноў надыйшла трамвайная цішыня. Дара стаяла нерухома, пакуль была здольная, потым павольна выдыхнула паветра праз нос — гук зьнік у сутонні пакоя. Дара ўзяла запальнічку, і за тыя сэкунды, пакуль можна было трываць, здолела разглядзець зусім юную яшчэ жанчыну, якая спала на раскладанні ў яе ног, загарнуўшыся ў няголены плед.

Вусны незнаёмкі захоўвалі сур'ёзнасьць, яна ляжала падціснуўшы да жывата ногі й грэючы між імі рукі, пакрытыя гусінаю скураю. Лоб, здавалася, наўмысна быў такі адкрыты й белы. Другі раз асвяціўшы сваю знаходку, Дара разглядзела і поўную адсутнасць сьлядоў касмэтыкі, і не разбэшчаныя завушніцамі мочкі маленькіх вушэй, кантраст цёмных броваў і прыступак рудых валасоў па-над верхняю губой. Для дачкі Воршына дзяўчына была завялікая, для — жонкі замалая. Незнаёмка ўздыхнула ў сьне, зманлівы смутак прабег па яе твары, быццам яна даўно заўважыла Дару і чакае, каб тая хутчэй сыйшла. Але не, дзяўчо спала, няўлоўная складка сну перасякала плед. Яна нагадвала... каго?... каго ж... яна нагадвала маці?

школьную сяброўку, якая прабівала Дары вушы?
нагадвала
дачку Дары
яна
нагадвала
толькі б заліць тушшу белізну лба
дадаць вуснам абветранасьці яна нагадвала
зрабіць ін'екцыю драпежнасьці гэтым скулам
дадаць кашчавасьці падбародзьдзю
нагадвала
абрэзаць нябачныя, але добра ўяўляемыя
празь цямрэчу валасы
пілкай для пазногцяў сплесьці сетку зморшчынаў
перапісаць нановаператварыць гэтае дзіця ў гліну —
і зрабіць вялікім пальцам
літаральна дзьве неабходныя ўмяціны яна

Яна нагадвала Дару. Дачкой яе яна быць не магла, у гэтым можна было не сумнявацца. Але гэта была Дара, тая Дара, якая раней

магла пакласці ў сваю касмэтычку ўвесь горад ды выкінуць у бліжэйшую сьметніцу, якая ўмела induced ператварыцца ў попел ды зачынаць дзяцей у такім выглядзе. Тая ж Дара, толькі крыху падправіць. Якая ж пакутлівая справа: усё жыцьцё шукаць паўтарэнне сваёй першай жанчыны... прынамсі, паўтарэнне вонкавае. Воршын знайшоў сабе новую Дару, вельмі неблагую новую Дару, Дару адрамантаваную. Няхай сабе падсвядома, але ўсе яны — Апалены ды карлікі, Адамы й Саддамы, валасатыя, наіўныя, жорсткія, імпатэнты ды машыны па вытворчасці спэрмы, безвалосыя, алькаголікі, цынічныя, сэнтыментальныя, — усе маюць замест вачэй маляўнічы трафарэт, які прыкладаюць да жаночых аблічча, да белалобых дзяўчынак на сваіх рыпучых раскладанках. Вось што такое праслаўтыя вочы каханага — два трафарэты, і нічога болей.

Апрануўшыся, намацваючы ў кішэні плястмасавую каралеву, Дара выйшла з кватэры й накіравалася да стаянкі таксі. Па яе калене скрыпічным ключом вілася тонкая белая нітка.

6

Падземны пераход гудзеў нібы пыласос, і, як Дыктатар не супраціўляўся, натоўп усё ж прымусіў яго спусьціцца — бачком, па сходах для дзіцячых калясак — пад сырыя крапаючыя зводы. Пасярэдзіне доўгага тунэлю сарамлівы чалавечак зьдзяйсьняў вулічны пэрфоманс — раздаваў запрашэньні на працу. Ад гэтага маладзёна Дыктатар увярнуўся зь лёгкасьцю, але адразу ж быў схоплены мужыком у мехавым капялюшы:

— Прабач, ня ведаеш, дзе тут „Лакі-фарбы”? — спытаў чалавек-капялюш, даверліва беручы Дыктатара пад локаць. Гідліва вызваліўшы руку, Дыктатар выціснуў праз зубы: „Сам тут упершыню”, але чалавек-капялюш ужо таропка гаварыў, шырока разяваючы рот з залепленымі яечным жаўткам зубамі:

— Адны гавораць тут другія туды йдзі тыя нахер я тут блін жонка дык гэта лакі фарбы лакі страйкі.

Дыктатар няпэўна ўзмахнуў рукамі ды рвануўся да выйсьця, але шукальнік лакаў нагнаў яго і зноў ухапіўся за локаць, з роспаччу, як за поручань адыходзячага цягніка:

— Слухай, набудзь капялюш, а, грошы ўсе на вакзале скралі, я зь Цьвяры прыехаў, набудзь, а, ня ў падлу, друх!

Дыктатар прыцягнуў капелюша да сябе і кароткім непрыкметным рухам ударыў пад рэбры. Пакуль той прагна глытаў паветра, абапёршыся на заклееную афішамі сьцяну, Дыктатар апынуўся ўжо

ля самага выйсьця. Памкнуўся наверх, да шэрага неба, і раптам убачыў Сястру.

Сястра стаяла на прыступках, прысланіўшыся сьпіною да парапэту. Жоўтае расшпіленае паліто здавалася зацвярдзелым ад вытрыманага бруду й холаду, празь яго было відаць шырокую спадніцу, наўмысна спушчаную на самыя сцёгны, каб прыкрыць ногі да пятаў — беспасярэднім позіркам дажджавога чарвяка на Дыктатара глядзела з жывата Сястры абрэзаная гумка. Але ні растаптаныя рудыя чаравікі, ні галодны бляск вачэй не выклікалі шкадаваньня... Жабрачка стаяла між спяшаючых людзей як лягерны ахоўнік, міма якога чарадою рушаць зьняволеныя. Таму, мусіць, і грошай ёй кідалі гэтак мала — накрыўка ад нейкае каробкі ў руках Сястры толькі падавалася яшчэ больш пустой ад некалькіх бледна-сініх паперак на дне. Сястра.

Дыктатар спыніўся, двойчы яго штурхнулі ў плечы тыя, хто йшоў сьледам; урэшце ён праціснуўся да Сястры. Тая паглядзела на яго безуважна, пасмактала кончыкі сваіх тлусных зваляных валасоў. Ад Сястры пахла мачою.

— Есьці хочаш? — спытаў Дыктатар, падсунуўшы твар да самых яе вачэй.

Тая зірнула абыякава ды адвяла погляд.

— Сястра... — прашаптаў Дыктатар, правёў далоняй па яе бліскучых валасах, узяў за горла, абхапіў пальцамі шчокі, памацаў. Дзяўчына не працівілася, толькі вочы ейныя пагардліва пазіралі на людзкое ракочучае месіва.

— Хадзем са мной, — Дыктатар схаваў яе халодныя пальцы ў свае ды павёў наверх. Яшчэ пранізьлівей зайграў скрыпач, які стаяў побач, і голас у глыбіні пераходу залямантаваў усьлед: „Мужчына! Мужчына! Паглядзіце, якія ружы!"

Яны выбраліся з праспэкту й пайшлі пад нізка навіслымі гаўбцамі вузкай ды застаўленай аўтамабілямі вуліцы. Краем вока Дыктатар заўважыў, што за ім зь пераходу выйшлі двое жабракоў — аднаго зь іх Дыктатар бачыў колькі хвілінаў таму ў пераходзе: апрануты ў выцвілую цяльняшку, той сядзеў, па-ўсходняму закруціўшы пад сябе ногі. Другі быў маладзей за першага, у руцэ ён трымаў мыліцу, калі-нікалі важка хапаючыся за самую яе сярэдзіну. Хаця перасьледнікі імкнуліся не паскараць сваю хаду надта відавочна, адлегласць між імі скарачалася. Дыктатар упіхнуў Сястру ў дзьверы грамадкай сталовай.

На шчасьце, у сталовай было некалькі наведнікаў. Чалавек у добра пашытым касьцюме, з дыпляматам у нагі, разгрызаў за столікам у

вакна пузатую кагорту чабурэку. Дыктатар кінуў Сястру ля яго, а сам, на хаду дастаючы атрыманыя ад чалавека-рыбы грошы, пайшоў да раздатачнай. Вадкае першае, плоскае другое, кампот — Сястра прынялася за ежу шумна, рохкаючы, адрываючы, выплёўваючы на стол храшчыкі, яна прыняла абед як належнае. Іхні сусед з падвоенай хуткасцю ўзяўся за чабурэк, адвярнуўся да вакна, нібыта зь цікавасьцю аглядаючы краявід: напаўсьпілаваныя дрэвы сквэру, як пальцы нябожчыкаў, імкнуць да зацягнутага хмарным друзам неба, падлеткі, усе як адзін валасатыя ды ў чорных скуранках, п'юць гарэлку з плястмасавай шклянкі; ля сваіх пэйзажаў, больш падобных на дрэнна зробленыя фота Батанічнага саду, гаротна сядзіць барадаты мастак і змахвае п'яныя слёзы. Перасьледнікі стаялі каля ўваходу ў сталоўку й пра нешта актыўна спрачаліся. Дыктатар паглядзеў на Сястру, падбародзьдзе й нос якой цалкам пакрыліся бульбяным пюрэ, уздыхнуў і расшпіліў куртку — на плечы ўпаў каўнер. У сталовую ўвайшлі два хлопцы, стрыжаныя пад Таранціна, на парозе спыніліся, цвынкнула бутэлька, і першы сказаў:

— Ды ну нафіг, тут нейкі хоспіс...

Другі павёў носам.

Сястра аблізвала талерку. Дыктатар вынуў з кішэні сшытак, знайшоў абгрызак алоўка й, па-блізарукаму схіліўшыся да паперы, вялікімі літарамі напісаў:

СЁНЬНЯ ЗНАЙШОЎ СЯСТРУ

Ён пасьлініў аловак, кінуў беглы позірк у вакно. Сястра глядзела на яго безь цікавасці.

Сястра Дасьць Сілы Раз На Месяц Можна Трываць Інкогніта

Жабракі на вуліцы пачалі выказваць нецярпенне, адзін памкнуў да дзьвярэй, другі яго ўтрымаў, пракрычаўшы нешта ў самае вуха. Дыктатар зноў схіліўся над сшыткам.

Ногі Твае Рассунутыя Мая Трыюмфальная Арка
Сястра Народжаная Для Мяне
Грудзі Твае Мой Скіпэтр Мая Дзяржава
Сястра Жалезная Заслона
Вашае Дыханне Не Парушыць Маю
Паветраную Прастору

Ён захапіўся — на твары Сястры між тым нарэшце зьявілася падабенства выразу, — нейкае дзіцячае чаканьне далейшых падзеяў, зусім не азмрочанае страхам. Дыктатар таропка сунуў сшытак у куртку. Пазяхнула касірка, бліснуўшы залатымі зубамі. З гулкім тупаньнем, бы жаўнеры, паднятыя па трывозе, у масіўны бак паляцелі тоўстыя піражкі, прынесеныя паварыхай... Дыктатар ускочыў, са

скрыгатам падсунуў да дзьвярэй стол, схапіў Сястру за руку ды рынуўся праз раздатачную ў нетры сталовай. На твары Сястры падскоквала застылая ўсьмешка. Яны пранесьліся празь цяжкую пару, празь загатаваную падлогу, пад якой гарэлі загадкавыя вагні, быццам у нейкай фантастычнай лябараторыі, перавярнулі абавязковы пусты рондаль... павары з ахвотаю крычалі, лаяліся ім усьлед — толькі й чакалі гэтага ўварваньня. Перад выйсцем Сястра пасьлізнулася на кафэльнай падлозе, Дыктатар, як фігурыст партнэрку, правез яе, моцна трымаючы за пальцы, і злавіў ужо на вуліцы, напоўненай рэхам.

Да дому Дыктатара яны йшлі моўчкі.

— А я ня ведаю, як мяне завуць, — сказала Сястра, калі Дыктатар спыніўся перад дзьвярмі бяз нумару, на якіх жоўтай крэйдай была намалявана зорка Давіда. Дыктатар выцер яе рукавом курткі — на дзьвярох засталася пляма, падобная да эмблемы аднаго маладзёвага радыё. — А я ня ведаю, як мяне завуць, — паўтарыла Сястра, калі яны ўвайшлі ў кватэру. Дыктатар пакапаўся ў выключальніку, сьвятло ўспыхнула й пагасла, ён зноў засунуў палец у чорную адтуліну, на гэты раз удала. Хаваючыся ля сьценаў, па кватэры прабіраліся скразьнякі. На цьвіку, спрабуючы сагрэцца, варушыў рукамі пінжак.

— А як ты мяне будзеш зваць? — спытала Сястра, высунуўшыся з вакна і ва ўпор разглядаючы суседку, якая стаяла на гаўбцы зьлева і якую душылі адразу два маньякі — вецер ды пасьцельная бялізна. — А адкуль у цябе гэта?

Сястра села на раскладанку і ўзяла ў рукі палац з каралём ды каралеваю. Дыктатар мягка забраў палац зь яе рук, паставіў у кут і сеў перад Сястрою на кукішкі. Сястра смактала валасы, лямпачку над яе галавой, як кадзіла, гойдаў вецер.

— Ты — Сястра, — сказаў Дыктатар, узяў яе за падбародзьдзе й зашаптаў — проста ў ноздры:

— Ты Сястра, і іншага ймя ў цябе ніколі не было... І ня будзе... Менш гавары... а лепш — не кажы нічога... лепш прыслухайся, чуеш... чуеш, што крычыць народ перад нашым палацам?

— Не, — галава Сястры з адкрытым ртом і вялікімі вачыма хіснулася.

— Выйдзі, Дыктатару, пакажыся — гэтак... крычаць... яны... Але нельга... бо — ворагі, бо вайна... абвешчаная.

— А ты будзеш мяне трахаць? — Сястра зазірнула яму ў твар зь непадробным інтарэсам. — Хворая я...

— Маўчаць! — крыкнуў Дыктатар, і ягоны голас нязвыкла сарваўся, віскатам аддаўшыся ў голых, абклееных газэтамі сьценах.

Дыктатар зморшчыўся. Па-над стольлю загрукаталі, і іржавыя батарэі праз колькі імгненьняў азваліся звонам.

Дыктатар узяў сястру за руку ды павёў у ванны пакой. „Я хачу спаць”, — скрывіліся яе вусны, але Дыктатар уладна штурхнуў яе да шэрай, зь некалькімі рэшткамі белай эмалі, ванны. — Распранайся, — зь цяжкасьцю сказаў Дыктатар, ліміт словаў якога сканчаўся. — Рас...прадайся... Ну!

Ён адвярнуўся, шукаючы апошні брусок гаспадарчага мыла, доўгаваждаў рукой за унітазам, падняўся. Перад ім стаяла, падрыгваючы, худая ды ладная дзяўчына гадоў шаснаццаці. Чырвоныя вочкі на грудзёх глядзелі амаль у розныя бакі, шыю накшталт караляў абвіваў белы шнар. На плячох і сьцёгнах гуртаваліся прышчы. Па пакоі, пазбаўленым ветру, лунаў пах мачы й чагосьці яшчэ — церпкага, гідкага і ў той жа час хвалюючага... гэта быў смурод, але смурод свойскі. Чалавек свайго смуроду часта не заўважае, а калі й заўважае, то гэта нават бывае й прыемна — хаваць нос пад даўно нямытыя пахі, нюхаць палец, пакрыты саладжавым потам ягадзіцаў... Дзяўчына адкінула валасы з твару на сьпіну і няўпэўнена ўсьміхнулася, запытальна ўзьняўшы падбародзьдзе.

Ён атрымаў выдатную Сястру.

Дыктатар пачаў з валасоў — нібы спрабуючы вылезьці з глыбіні яміны, ён усоджваў пальцы ў каўтуны й рэзкім рухам, зьверху ўніз, разрываў брудныя ільсьністыя жгуты. Рукі яго груба, ледзь не зрываючы разынкі радзімак, хадзілі па яе сьпіне, сьцяўшы зубы, яна стаяла на каленях, ад якіх ужо адставаў слаямі бруд, стаяла, утаропіўшыся ў чорную адтуліну на дне ванны, і варушыла пальцамі на нагах. Ужо густа намыльваючы Сястры шыю, Дыктатар адчуў са зьдзіўленьнем і жахам,.як напінаецца ў ім, цясьнімы нейкім унутраным ціскам, паветраны шарык, і быў гэты шарык зь ягонай, Дыктатаравай, плоці, ды і ня шарык гэта быў, не — пэтарда, хлапушка, поўная успамінаў.

Мыла выскачыла з рук і зрабіла плаўную дугу па ваньне — ад краю да краю. Дыктатар кінуўся на кухню, дзьверы за ім бразнулі і расчыніліся зноў, шырокім урачыстым тэстам адкрываючы вітальні траскун) постаць, якая з заплюшчанымі вачыма выгінала ў далонях пустату.

## 7

Стары Каспар узьняў руку, растапырыў пальцы... На твар яго, падобны колерам да выпаленай зямлі, апусьціўся цень вельмі важнага, лёсавызначальнага Дзеяньня. Рука некалькі разоў сутаргава здрыганулася, потым з палёгкаю ўпала на бліскучае кола інваліднай

каляскі, пачасала яго, нібыта калена. Зрэнкі схаваліся за курчавыя валасы броваў — вочы прыязна паглядзелі на жонку, на квяцістыя шпалеры, на трох багатыроў, якіх звалі няйнакш як Алёша Араміс, Ільля Партос і Дабрыня Атос.

— Зноў нагадзіў, гора ты маё, — уздыхнула Каспарыха, адвярочваючы галаву ад дзьвярнога вочка. Яна па-жывёльнаму панюхала паветра. — Нагадзіў... Ну пацярпі, надта ўжо цікава.

Ля дзьвярэй суседняй кватэры стаяў, абапершыся плячом аб сьцяну, малады чалавек у блакітным касьцюме. Гледзячы на яго, разьдзьмутага оптыкай вочка, Каспарыха адчувала зайздрасьць — яе сыночак нядаўна адзначыў сваё шаснаццацігодзьдзе... Шаснаццацігодзьдзе знаходжаньня ў розных калёніях строгага рэжыму. Гэты ж быў, па ўсім відаць, культурны, зь мяккімі, амаль дзявочымі рысамі твару, чыста апрануты, добра паголены, у руцэ трымаў вялікі букет белых ружаў, часам ён падносіў да вільготных бутонаў вольную руку й потым зноў прыбіраў — сьціскваючы пальцы, размазваў ваду па сухой далоні, далікатна так, нібы ў кіно. А галоўнае, гаварыў культурна, неразумела і ад гэтага быў яшчэ больш прывабны. Толькі адно бянтэжыла Каспарыху — прыемны малады чалавек прыйшоў да гэтай шлюхі, гэтай Толікавай мокрашчолкі. Авой, як гэта было ўсё ж цікава... Надта цікава, надта ўжо.

— Нас разьдзяляюць дзьверы, драўляныя дзьверы таўшчынёю ў некалькі сантымэтраў. Па адзін бок дзьвярэй можна хадзіць голым, расчляняць трупы, здымаць порнафільмы, вырабляць фальшывыя грошы, сьпяваць, паліць траву й піць гарэлку. Па другі бок можна толькі атрымаць за ўсе пералічаныя дзеяньні заслужанае пакараньне. Ад штрафу ў розгах-мінімалках да найсправядлівейшае дзяржаўнае кулі... Два твары — твой і мой — па розныя бакі дзьвераў, дзьве пары вачэй, якія намагаюцца глядзець адна на адну ва ўпор праз зафарбаванае дрэва, два галасы, балянсуючыя на той уяўнай мяжы, зьлева ад якой — напружаны слых суседзяў, справа — неразборлівы шэпт. Ну як, спадабалася?

Што адказвалі маладому чалавеку з-за дзьвярэй, чуваць не было, але адчыняць яму пакуль не зьбіраліся. Зрэшты, па далейшай размове Каспарыха шмат зразумела, і госьць яе прыдуркаватых суседзяў пацiху страціў сваю прывабнасць.

— Я хачу толькі ўбачыць цябе... клянуся. Разумею, разумею твой недавер. Ну, адчыні, і я ўсё растлумачу... Я... Я папросту ня ведаю другога спосабу пазнаёміцца з табой. Ты так доўга была для мяне таямніцаю... але ўчора...

Малады чалавек выпрастаўся, памахаў ружамі. Адказ з-за дзьвярэй на момант сказіў ягоны твар.

— Я разумею, што гэта сьмешна, але твая таямніца ўжо выпальвае мяне знутры. Можа быць, я буду расчараваны, калі ўбачу цябе... Я... Я ўжо ведаю пра цябе трохі, ты маеш доўгія валасы, ты любіш глядзець з вакна на трамваі ўвечары, ты можаш быць задуменнай... Прашу цябе, адчыні, я толькі пагляджу на цябе й сыйду.

Выслухаўшы адказ, госьць нахмурыўся, выдастаў насоўку, відаць, прапітаную цярпеньнем, выцер твар. Голас ягоны, аднак, усё гэтак жа мякка бруіўся праз поры ўпартых дзьвярэй.

— Па-першае, твайго, як ты кажаш, мужа ў кватэры няма, ты дома адна, ён сыйшоў гадзіну таму. Па-другое, ён табе ня муж, ня брат і ня сьвёкар.

— Пра прапіску ў яе спытай, — прашаптала Каспарыха, патрэсшы ўспацелым бюстам і адцягнуўшы ад яго на пару сэкундаў мокры станік.

— Хаця... мне да гэтага ніякае справы няма. Я толькі паглядзець...

Малады чалавек прысеў на прыступку, запаліў цыгарэту. Праз вочка Каспарысе здавалася, што лесьвічная пляцоўка зараз перакуліцца дзіўным госьцем уверх і сонечная пляма на паверсе вышэй апынецца якраз на клятчастай анучы ля каспарыхаўскіх дзьвераў.

— Ну вызірні хаця б у вакно... давай зробім так: я кладу кветкі ля дзьвярэй ды сыходжу, а ты вызіраеш у вакно... пры дзённым сьвятле... я ўбачу цябе пры дзённым сьвятле...

Каспарыха не сьпяшалася адыходзіць ад вочка, хаця стары Каспар ужо роспачна біў учэпістай кляшнёю па коле каляскі, і, як высьветлілася, зрабіла слушна. Дзьверы прыадчыніліся, мільгануў уніз цёмны клін валасоў, і раптам белы кветачны вагонь успыхнуў у мутным вочку, засланіўшы Каспарысе агляд. На шкло вочка села кропля вады й памкнула праз увесь экран — рэзкімі рыўкамі. Відаць, суседка Каспарыхі стаяла на парозе й трымала ружы ў руках. Тут жа пад'езд выбухнуў грукатам, наваліўся блакіт, зьнік, зьявіўся зноў. Каспарыха, аматарка ўсялякіх тэлевізійных журналісцкіх выведваньняў, успомніла, што так зьмяняецца выява на экране, калі пачынаюць біць апэратара. Нарэшце перад Каспарыхаю засталася адно пустая пляцоўка ды, як заўсёды, замкнёная дзьверы. Адсунуўшы ўбок каляску са сьвідруючым яе вачыма мужам, Каспарыха кінулася да тэлефону, набрала нумар:

— Таісься? Ты бачыла, Таісься?

— А то! — урачыста й змрочна адказала Таісься, праціраючы крысом халата мышыныя акуляры.

8

На новым мейсцы Тацяна Воршына пачувалася ня надта блага. Хутка яе нельга было ўжо вылучыць з агульнага кодла старых дам, якія, шляхетна прыпадымаючы крысьсё доўгіх шаргатлівых сукенак, дробненька й чынна тупаючы па паркетнай падлозе йшлі на сьняданак, у танцавальную залю альбо на валейбольную пляцоўку. Някепскія стасункі склаліся ў яе са спадарыняй Мусаліні — тая была ахвочая да размоваў, часта садзілася побач, шчыльна сціснуўшы калені, нібы дзяўчынка ў караценькай сукенцы, і пачынала свае доўгія маналёгі. Па Тацяніным твары прабягала пакутлівая рабізна, яна намагалася знайсьці ў гэтай няспыннай плыні хаця б адно знаёмае слова, і часам знаходзіла, што не давала ёй ніякай карысці. Дачакаўшыся, пакуль спадарыня Мусаліні спыніцца, каб перавесьці дух альбо паглядзецца ў люстэрка, Тацяна цяжка ўздыхала, нібы зацягваючыся „Беламорам”, ды змрочна гаварыла:

— І не кажы... Што ўжо тут: бог даў, бог і ўзяў...

Або:

— Дык і я пра тое ж... Не каб так — дык ён во як!

Гэткія размовы давалі Тацяне пачуцьцё прыналежнасці да новага калектыву. Кіраўніком яго, ведама ж, быў спадар Выпадак — Тацяна пабойвалася яго, як свайго начальніка ў тым жыцьці, загадчыка сталічнае крамы № 36 Пятра Пятровіча, і гэтак сама як да Пятра Пятровіча, спрабавала да яго заляцацца. Хаця яшчэ ні адзін мужчына ў свеце, ня лічачы хранічнага алкаша, нябожчыка Воршына, не капітуляваў перад яе вабнотамі. Дый спадар Выпадак быў непахісны, у вадказ на ўсе намаганьні Тацяны глядзець на яго кароўімі вачыма ён адказваў флегматычна, ці то з польскім, ці то з французскім акцэнтам: „Ты што, Воршына, забыла дзе знаходзішся?” — і Тацяна балюча калола сабе сьпіцаю палец, пралівала кіпень на ногі.

— А дзе, дзе я знаходжуся? — у соты раз пыталася крыўдліва Тацяна, але Выпадак ужо клікаў усіх дам на штодзённыя сьпевы, дзе сам садзіўся за фортэпіяна або валасатымі рукамі ў лайкавых белых пальчатках дырыжаваў гнусавымі галасамі, моршчыўся, калі спадарыня Лукашэнка пачынала цягнуць пурытанскі гімн „Гасподзь дасьць мне болю” на матыў „От хто та з горачкі спусціўся” і казаў строга:

— Ну-ну, эўрыбадзі з трэцяй лічбы!

Напачатку Тацяна адкрывала рот з усёй адказнасцю, бо яе знаходжаньне тут асьвятлялася цудоўнымі нядзелямі, калі ў вялікай

залі прыбіралі плеценыя крэслы ды столікі й ладзілі танцы. Выпадак прыводзіў аднекуль сівых кавалераў у лямпасах, галунох і ардэнох, і тыя, выпаліўшы з Выпадкам пару люлек пад каньяк, падкручвалі бравыя вусы й запрашалі дам у свае мужныя абдымкі. Выпадак садзіўся за падобны на антыкварны камод белазубы „Вэльтмайстэр", лагодна пазіраў на парачкі, і пальцы ягоныя выбухалі „Венскім вальсам". Танцы звычайна працягваліся нядоўга, ужо пасьля першых тактаў кавалеры адзін за адным адсейваліся, падаючы ў фатэлі ля сьцяны й ліхаманкава глытаючы валідол. Дамы ціха накрывалі на стол (прыслужніцу Лізку па нядзелях адпускалі ўніз). Усё сканчвалася гарбатаю з тортам ды любоўнымі цыдулкамі.

На адной з такіх party Тацяну ўпершыню ў жыцьці запрасілі на танец. Прыгожы мурын з ацяпляльным позіркам, чымсьці падобны на Саладуху, закружыў яе ў шалёным вальсе, з жарсьцю ўпіўшыся кіпцюрамі ў Тацянін азадак. Прыгадалася юнацтва, танцпляцоўка ля інтэрнату, сяброўка Любка... Вось ён, аказваецца, які, сапраўдны танец! Даведалася праз трыццаць год.

— Балюча мне, малпа, — пяшчотна казала Тацяна, прыціскаючыся да мурына, робячы трусіныя вочы і адчуваючы, што зараз не ўстаіць на нагах ды паляціць у аранжарэю.

Ёй пашанцавала — Тацяна здолела зразумець, што завуць кавалера Бакаса. „Бакасу" яна адразу ж для зручнасці перарабіла ў Бекаса — было ў гэтым слове нешта ад блатной рамантыкі, ад чорнабровых хлопцаў з заточкамі, якія дораць дзевушкам кольцы і брасьлеты, шляпкі і жакеты, і салодка цалуюць, дастаючы з кішэняў наганы, калі ад груку ў дзьверы трымціць на сьцяне гітара з бантам... Але ў наступную нядзелю Бекас танчыў з тоўстаносай спадарыняй Франка, і гэтую здраду Тацяна так і не змагла яму даравацць.

Так, тут было ня так ужо й блага.

Ня так ужо й блага, калі ўсё зрабіць зручным для ўспрымання, усё прыстасаваць пад сябе. Тут кармілі чатыры разы на дзень, давалі апэльсінавы сок, бараніну ў бананах і ўсялякіх гадзінаў, якіх Тацяна ня то што ня ела ніколі, але і ў „Сьвеце жывёлаў" ніколі ня бачыла. Апошніх яна ўдала выкідала ў аранжарэю, і гэта адбывалася так часта, што пакрысе адтуль пачалі зьяўляцца галодныя вочы нават тых расьлінаў, якіх там ніхто не саджаў. Праўда, пасьля заўвагі, зробленай Выпадкам, Тацяне давялося есьці й кальмараў, і вустрыцаў, і вусеняў, і сабакаў.

Безумоўна, яна не была настолькі глупаю, каб не разумець некаторай фантастычнасці гэткіх зьменаў у яе існаваньні. Але паступова Тацяна ўнушыла сабе, што знаходзіцца ў санаторыі, можа быць,

нават урадавым. „Ну і што?” — думала Тацяна й расплывалася ад задавальненьня, як тлушч на патэльні. „Заслужыла, відаць. Ня кожнаму даюць, а мне — аво!”

Няблага тут было. Але пасьля гісторыі зь Бекасам Тацяна ўсё ж рашылася на пабег. І спрыяльны момант урэшце надыйшоў у выглядзе валейбольнай пляцоўкі і сонечнага, але ў меру, як заўсёды тут, дня. Тацяна гуляла ў вадной камандзе з Мусаліні і Шыкльгрубэр. Зрэшты, гульнёй гэта цяжка было назваць. Не для іхнага веку быў валейбол, кожная падача (калі яна зьдзяйсьнялася, што бывала прыкладна двойчы за матч) не сустракала на сваім шляху аніякіх перашкодаў. Франкіха ўдарыла па мячы кулаком, нібы хацела забіць гэтую ненавісную жоўтую кулю, якую астатнія дамы пераносілі са стаічным цярпеньнем. Мяч, уварочваючыся ад разьюшанай старой, зьбег у ахайны хмызьняк ля высокай белай агароджы.

— Мячык дурдын-мурдын? — запыталася ў Франкіхі мадам Джугашвілі.

— Мячык дурдын, Воршына мурдын, — са злосьцю адказала Франкіха й падзьмула сабе на чырвоныя, як пасьля сьціркі, рукі.

Тацяна неахвотна палезла ў хмызы. Насустрач ёй па-змоўніцку ўсьміхнулася адтуліна ў плоце. За адтулінай віднелася вуліца. Выпадак сядзеў на судзейскай вышцы, круціў на пальцы сьвісток са сланявай косткі і глядзеў на аблокі.

Вуліца была нейкай дзіўнай. Тацяна йшла ды йшла па нагрэтым бруку, з радасцю адчуваючы, што вецер забраўся ў дзірку на яе новым спартовым касьцюме ды куляецца там, як кот пасьля валер'янкі, — а ніводнага чалавека насустрач ня трапілася. Белыя будынкі ўсё шчыльней абступалі Тацяну, на шчасьце, потым дарога пайшла ўгору... неўпрыкмет Тацяна выбралася на ўзвышша. Аніводнае жывое душы навокал. Якое ж было захапленне, калі вочы Тацяны выхапілі з суцэльнай белізны і рванага блакіту дрогкую кропку. Па-над двухпавярховым будынкам мэтраў за дзьвесьце адсюль, які прыкрываўся ад вуліцы ябланевым садзікам, лунаў непараўнальна яркі на фоне бальнічных колераў чырвона-зялёны сьцяг. „Наш,” — забілася ў Тацяны сэрцайка. „Наша,” — усьцешана закаціўся пад ветрам сьцяг.

Садзік з будынкам простакутнікам атачалі пабеленыя краты. Ад брамкі з гульлівым званочкам у форме рамонку да ўваходу ў будынак ішла дарожка, прыпудраная жоўтым пясочкам, абапал яе драмалі сытыя чырвоныя ды залатыя цюльпаны. Тацяна ледзь ня ўдарылася галавою аб брамку, як гарналыжнік спусціўшыся з крутога брукаванага схілу. Тут цішыня стаяла нейкая іншая, чым у белым бязьлюдным гарадку... І будынак, і сад здаваліся вельмі знаёмымі. Гэта была

амбасада, а можа, нейкі выканкам або РУУС. Ды чым бы гэта ні было, яно было сваім. Тацяна тарганула брамку, нібыта тая ўлезла ў чаргу ні на сваё мейсца, брамка, натуральна, не паддалася. Тады Тацяна пазваніла. Увесь сад павярнуўся да яе заспаным тварам, але на будынку не варухнулася ніводная аканіца. Тацяна пазваніла яшчэ, доўга й нецярпліва, званок мэлядычна й ветліва паказаў поўную адсутнасць руху ў доме.

Тацяна аддыхалася, села на тратуар, цюльпаны зноў утаропіліся ў па-жаноцку фрызаваную траву й жоўты пясок. Тацяна прысела ля брамкі, там, дзе адна зь яблыняў нахілілася на вуліцай, справіла малую патрэбу. Потым пазваніла ў трэці раз. Пэўны час ёй падавалася, што і цяпер адказу ня будзе, але дом пажаваў губамі і на ганак выйшаў маленькі мужчына ў гальштуку, што вольна боўтаўся на расшпіленай белай кашулі. Мужчынка хмура паглядзеў на бясхмарнае неба, пазяхнуў і выдастаў з кішэні бляшанку піва.

— Адчыніце! — крыкнула Тацяна. — Эй, адчыні, я свая! Чуеш? Чуеце? — папраўлілася яна, падумаўшы, што чалавек перад ёй, нягледзячы на непрэзэнтабельны выгляд, мусіць, мае ўсё ж некалькі кіляграмаў улады.

Чалавек ушчыкнуў бляшанку, са смакам зрабіў глыток і абыякава зірнуў на Тацяну.

— Я заблудзілася! — закрычала Тацяна, — Я ад групы адстала! Я ў трыццаць шостай краме працую, ведаеце? Упусьціце мяне, я ж свая! Гэй!

Чалавек пачасаў грудзі, задуменна паглядзеў на жоўты пясок і паставіў бляшанку побач з сабой на ганак. Потым паглядзеў на сонца і пасунуўся трошкі далей у цень. Пазяхнуў, пачасаўся яшчэ раз, выцер лоб.

— Ну няма ў мяне дакументаў! — заверашчала Тацяна. — Дык ты ж бачыш, што я свая! Я ваша, свая, наша!

Чалавек дапіў піва, паставіў бляшанку ў ног, потым неахвотна падняўся й схаваўся ў доме, які зноў зрабіў стомленую грымасу й замёр.

— Ты куды, ты куды? — заквохтала Тацяна.

— Таварыш! Спадар!

Яна задаволена адзначыла, што мужчына вярнуўся, толькі на галаве цяпер быў трапічны шлем, а гальштук зацугляў шэры, звычайны да замілавання пінжак.

— Я ж казала, што ня хлушу... ня хлусю... ну што гэта, ну, — загаварыла радасна Тацяна. Голас яе адскокваў ад цішыні, чэз, бляднеў. — Я ж казала...

Мужчына зрабіў некалькі крокаў па дарожцы, размахнуўся — у бок Тацяны, акурат на тратуар, шмякнуўся папяровы пакет. Яна зьдзіўлена правадзіла поглядам зьнікаючага ў доме мужчыну, разгарнула...

Кволым птушанём выляцела нейкая брашура, за ёй пакаціліся, нібы танцавальны сэкстэт Гуінпленаў, матрошкі, наколькі менш, настолькі пачварней адна за другую. Апошняй з пакету выпала каробка цукерак „Камунара”. Тацяна, з роту якой ужо гатовыя былі вырвацца салодкія пракляцці, падняла брашуру й прачытала назву: „40 год ансамблю „Журавінка”

— Каб ты здох, — павольна вымавіла Тацяна і ўпала ў рукі як заўсёды своечасова пабеглага Выпадкі.

9

Парады

...............

Сысьці З ГОДНАСЬЦЮ

Дара Малярыя

................

Прывітанне, малая!

Ты выбрала самагубства — што ж, гэта твая свабода, ты маеш поўнае права распараджацца сваім жыцьцём гэтаксама, як сваімі кішэннымі грашыма або вольным часам. Ня ведаю, што цябе падштурхнула пакінуць гэты „вар'яцкі, вар'яцкі, вар'яцкі сьвет”, але калі ты сур'ёзна вырашыла сысьці, то зрабі гэта, як і належыць жанчыне новага стагодзьдзя (а я гляджу, ты ўжо сапраўдная жанчына, бо самагубства — адказны, дарослы ўчынак) — зрабі гэта прыгожа, стыльна, гігіенічна, бяз сопляў і размазанай па твары тушы. А мы — Дара Малярыя і твой надзейны сябра „Ваў” — дамо табе некалькі карысных парадаў. Існуе шмат спосабаў зьвесьці рахункі з жыцьцём. Возьмем самыя распаўсюджаныя й правераныя на практыцы: павешаньне, атручаным, ускрыццё венаў і скачок з вышыні. Утапленне або кіданне пад цягнік стала ў наш час нечым пошлым, „з прэтэнзіяй”, ты ж не Кацярына і ня Ганна Карэніна якая-небудзь, а сучасная, нармальная, здаровая жанчына. Дзіраваць з пісталета сваю ачаравальную галоўку? Не, пакінем гэта мужчынам. Такім чынам, пачнем з павешаньня.

Вешацца лепш за ўсё раніцай, калі продкі на працы і ніхто ня будзе заламваць табе рукі й ламіцца ў дзьверы твайго пакою. Што табе патрэбна? Добры рэмень з натуральнай скуры, падыйдзе таксама шнур ад бумбоксу ці, на горшы выпадак, звычайны шпагат. Калі ў

тваім доме няма добрых крукоў, можна скарыстаць доўгі тоўсты цьвік. Папрасі свайго бойфрэнда, ці, калі сам бойфрэнд і зьяўляецца прычынаю твайго рашэньня, ягонага лепшага сябра ўбіць яго ў сьцяну. Ёсьць навык - зрабі гэта ўласнаручна, бо сыходзіць з жыцьця лепш нікому нічым не абавязанай, Тое, што ты выбрала ў якасьці „прылады працы”, мусіць шчыльна ахопліваць шыю, але ўсё ж неабходна пакінуць пару санты мэтраў для сьціскань ня. Вешацца лепш басаnож. Шыю можна змазаць для гарантыі вільготным крэмам, і самым удалым для падобных выпадкаў лічацца крэмы „Nivea”. Рэзкім рухам выбі з-пад сябе зэдлік (фатэль ці стос збору твораў Купалы тут не падыходзяць), паслаб мышцы жывата і — шчаслівай дарогі!

Плюсы: спосаб досыць гігіенічны й чысты, пасьля цябе не застанецца ні мора крыві, ні раскіданых па пакоі мазгоў. Да таго ж ад цябе патрабуецца мінімум затратаў.

Мінусы: памятай, што ненадзейна забіты цьвік можа адбіць у цябе ўсялякую ахвоту да падобных учынкаў, бо дубль — два надае ўсяму працэсу нешта камэдыйнае. Яшчэ: каб адштурхнуць ад сябе табурэтку, трэба перадолець жывёльны інстынкт самазахавання, які, натуральна не ўпрыгожвае жанчыну 21 стагодзьдзя. А перадолець яго бывае ой як цяжка!..

Музыка: „Enigma”, раннія „Pink Floyd”, Грыг.

Прыклад перадсмяротнай цыдулкі:

Дарагія мама й тата!

Па сачыненні мне 5/4. Джэка я выгуляла. Званіла цётка, прасіла прывезьці ёй сульфадымэтаксін. Аліку перадайце, каб больш не тэлефанаваў. На вячэру не чакайце.

Ваша дачка.

(Пасьля напісаньня цыдулкі дасканала правер арфаграфію. Слова „сульфадымэтаксін” правер па слоўніку замежных словаў.)

Атручаным... Дваццатае стагодзьдзе дало нам тысячы лекавых сродкаў, з дапамогай якіх можна пакінуць гэты сьвет лёгка й прыемна, з прысмакам чагосьці хвалюючага й рамантычнага — быццам сыходзіш з жыцьця пад кадры „Сібірскага цырульніка”. Прымі адпаведную колькасьць пігулак (гл. Табліцу), і залезь пад тонкую коўдру, у свежую пасьцель. Бялізну папярэдне высьцірай новым „Асам” — ён дорыць сьвежасьць усёй сям'і й зьяўляецца фундатарам нашага з табою часопіса. Ажыцьцяўляць задуманае лепш альбо перад сном, альбо зранку. Глытай пігулкі па адной, а ня кідай у рот жменяй — так лягчэй пазьбегнуць ванітнага рэфлексу. За дзень да справы лепш адмовіцца ад усялякае ежы. Запіваць пігулкі налепей звычайнвй

піцьявой вадою. Галоўнае, каб у цябе быў у запасе час, каб гадзін восем цябе ніхто не турбаваў. Прыемных сноў!

Плюсы: абсалютная чысціня. Адысці ў сне — прыгожа, духоўна і эстэтычна. Бацькі не адразу зразумеюць, што ты назаўсёды засталася ў краіне летуценьняў. У іх будзе час пабыць сам-насам.

Мінусы: дактары насабачыліся цяпер ратаваць атручаных, так што чым пазьней цябе знойдуць, тым лепш. Знойдуць рана — ёсьць верагоднасьць абломy.

Музыка: Вэрдзі, зборка „Love ballads”.

Для ўскрыцця венаў трэба абраць дзень, калі ўсе дамашнія зьяджаюць куды-небудзь на лецішча. За дзень да справы паскардзіся бацьку на тупыя нажы — няхай заточыць іх да таўшчыні воласу. Каб нічога не западозрыў, актыўна бяры ўдзел у гатаваньні салатаў, абіраньні бульбы, нарэзцы хлебу. Зьехалі? Напоўні ванну цёплай вадой і — за справу! Старайся не варушыць рукамі й наагул на іх неглядзець. Папрасі ў настаўніка па СМК рэпрадукцыю карціны якога-небудзь перадзьвіжніка, уладкуй яе на краі ванны й атрымлівай асалоду. Не ляжыць душа да жывапісу — надзень цёмныя акуляры. Праз хвілінаў восем надыйдзе прыемная санлівасьць... На схеме зьлева паказанае мейсца на руцэ, дзе ўскрыццё прыносіць максімальны эфэкт (схема распрацаваная нашымі даўнімі сябрамі — мэдцэнтрам „Вітаманус”. „Вітаманус — гэта здароўе для ўсёй сям'і, уключаючы сабаку!)

Плюсы: высокая верагоднасьць атрымання жаданага выніку, цеплыня, спакой у апошнія хвіліны... і як эстэтычна!

Мінусы: многія з нас не выносяць выгляду крыві, а яна, выклікаючы агіду, яшчэ й гіпнатызуе, як кобра. І, безумоўна, у самім акце прысутнічае спачатку боль, хаця напраўду працэс ня больш балючы, чы узяцце крыві на аналіз.

Музыка: Земфіра, БИ-2, наагул — расейскі рок.

І ўрэшце — скачок з вышыні. Тут ад цябе патрабуецца толькі тваё цела, прыладаў працы навокал хапае зь лішкам. Асабліва прыдатнымі мне падаюцца новыя чатырнаццаціпавярховікі ў Гопаўцы і „кукурузіна” на вуліцы Троцкага. Праўда, там кодавыя замкі, але ж на тое ты й жанчына, каб адмыкаць усе дзьверы сваёй абаяльнасцю.

Скончыць жыццё самагубствам падобным чынам найлепш усё ж у чыжым раёне, бо хіба задавальняе цябе гэткая карціна: ля твайго распасцёртага цела шчыруюць тыя ж самыя бабулькі, якія штодня, гніючы на лавачках ля твайго па'езду, гнусавяць табе ўсьлед рознае паскудзтва?

Самае цяжкае — зрабіць гэты вызначальны, рашучы крок у пустату. Так што альбо заплюшчы вочы, альбо скоч з разьбегу, або стань

да пустаты сьпіной. Разьбег, праўда, пазбаўляе твой скачок трагічнай стыльнасці, але пры палёце дапамагае ня ударыцца галавою аб гаўбец і ўпасьці на зямлю падобнай да ахвяры аўтакатастрофы. Добра агледзі мейсца будучага прызямленьня — пажадана, каб яно было заасфальтаваным або забэтонаваным, бяз дрэваў, дроту, хмызоў, іншых гарадзкіх расьлінаў. Вядомыя выпадкі, калі самагубцаў ратавала нават павешаная сушыцца бялізна.

Плюсы: галоўны плюс — адчуваньне вольнага падзеньня, незнаёмае нават парашутыстам. Ці не пра гэта марыў Ікар?

Мінусы: відавочна, што цела тваё, мякка кажучы, страціць пасьля прызямленьня частку сваёй прыгажосці. Ня вельмі чысты, але надзейны спосаб.

Музыка (у плэеры): ад Індастрыелу да Бэтховэну.

Удачы табе. Вазьмі на той сьвет „Баў” — ён і там дапаможа табе ў цяжкую хвіліну. Пішыце мне на адрэсу: вул. Каплан, 9, Дары Маляры.

10

Ногі, якія без супынку варушыліся, геніталіі, угадваемыя пад шырокімі нагавіцамі ды купаламі спадніцаў — Дыктатар выразна ўяўляў, як яны, нібы кветкі, выдзяляюць свой ні на што не падобны пах у цёплым паўзмроку майткоў; рукі, што, нібы засланяючыся, трымалі перад сабой кайстры й пакеты... так, ад ног да пупка, яшчэ можна было трываць членаў гэтай рэлігійнай сэкты — пасажыраў аўтобуса нумар 36. Галоўнае — ня бачыць твараў. „... разьбіць шкло. Малаток у кіроўцы”. Дыктатар сядзеў, гледзячы на свае калені, яму здавалася, што яго толькі што моцным ударам зьбілі з ног і цяпер зьбіраюцца дабіваць, падымі вочы — і пачнецца расправа. Галасы наверсе сінхронна вялі самыя розныя размовы, сярод якіх можна было вылучыць тры найлепш чутныя: пра сына, які зьехаў у Галяндыю й ня піша, пра тое, дзе лепей прабіць брыво ды абмеркаваньне заўтрашняй зарплаты й гэткай жа немінучай расплаты.

Дыктатар вынуў сшытак і пачаў грызьці аловак. Урэшце той быў даведзены да патрэбнага стану, Дыктатар шчодра пасьлініў яго, схіліўся над аблытаным лініямі скруткам:

„Дзень — кропля, якая дрыжыць На Столі Яна Надзімаецца Яна Таўсьцее Яна Дрыжыць Рыхтуецца Да Скачку Яна ў Нецярпеньні Падбірае Пад Сябе Хвост Яна Кінецца Яна Ўпадзе Кропля”.

— Гэта ня кропля, гэта нейкая сапля. Добры дзень, пане Дыктатару! — ціха вымавіў нехта па-над галавою, удала абраўшы момант, калі дымавая завеса галасоў наверсе дасягнула чарговага

найніжэйшага пункту празрыстасці й схавала прамоўленае ад чуйнага слыху суседзяў.

Як не брыдка было падымаць угору вочы, Дыктатар паглядзеў на тых, хто стаяў вакол — але па-над ім узвышаўся толькі няроўны частакол твараў, бясстрасных або заклапочаных, і ён не знайшоў аніводнага, хто выдаў бы сябе якім-небудзь рухам або зьзяньнем зрэнак. Толькі хваравіта падрыгвала цела аўтобуса, распухлае, злое, — ён рабіў кола па плошчы і дамы, сабраныя ў гурт пастушым зрокам пасажыраў, выгіналіся, прыціскаючыся адзін да аднаго. Размовы перасякаліся, дзяліліся, патаналі ды ўсплывалі, па-над самай стольлю вісела, як нябачны смог, напружанне зацеклых рук. Было душна, дыктатар зноў схіліўся над сшыткам. Нейкая жанчына з агідай паглядзела на яго й пачала праціскацца да дзьвярэй.

— Галаву падымаць неабавязкова, — з асалодаю ад уласнай непазнавальнасьці сказаў голас. — Нуну, не хвалюйцеся. Я ўсяго толькі пасол, мірны амбасадар. Хачу ўсталяваць сувязі… Гандаль, культурны абмен. А Сястра чакае… а, пане Дыктатару?

Дыктатар раптоўна ўзьняў галаву і абвёў усіх новым уважлівым поглядам, але крыніцу голасу так і ня вызначыў.

— Гаварыце са мною, пане Дыктатару, нас ніхто ня чуе. Гаварыце, я пакуль толькі пасол…

— Ну… і якую ж краіну… ты… прадстаўляеш… чалавек-голас?

— Яна пакуль яшчэ ня створаная, яна пакуль мара, летуценне, форма, якую трэба заліць жыццём. Знайсьці якога-небудзь фундатара, былога паліцая, напрыклад, які пазьбег пакараньня, забойцу, апраўданага за недахопам улікаў, адшукаць гэтыя ўлікі й доказы, ды падымаць эканоміку. Краіна ж пачынаецца з эканомікі… Так? Ці ўсё ж найлепшы варыянт — гэта настаўнік — растлiцель малагодак? А, пане Дыктатару, што скажыце?

— Чаго ж… табе… трэба… пасол?

— Не здагадвайцеся? Я ж пасол. Хачу адкрыць амбасаду на тваёй тэрыторыі.

Дыктатар паглядзеў на малюнак якраз побач зь ім, мэталічную плястынку пад шклом вакна. Вялікі бязвокі белы чалавек сядзеў і трымаў на каленях гэткага ж малога. Герб іхнай зь Сястрой дзяржавы. Ён паспрабаваў падняцца, каб пакінуць гэтага дрыжачага жалезнага монстра з усім зьмесьцівам ягонага жывата. Ніколі яшчэ ворагі не размаўлялі зь ім так — адкрыта, нахабна, не хаваючы сваіх мэтаў. Але невядомая сіла ўтрымала яго на мейсцы. Нават калі б і атрымалася падняцца, праціснуцца да выйсьця было немагчыма — здавалася,

пасажыры наўмысна ссоўваюць плечы, ствараюць сьцяну.. не, не сьцяну — прэс, які расплюшчыць аб шкло пры малейшым руху.

Паўтарэнне Аднаго Руху Дзеяньні Памкненьні Варыянты Аднаго Руху

11

Сшытак Для Работ Па Беларускай Мове
Вучня А клясы Школы Інтэрната Нумар тры
Сорак Другога Красавіка Сачыненне
Кім Я Хачу Стаць Пасьля Школы
Адпомсціць Краіне За Родавыя Пакуты Маці
Каб Іхняя Краіна Крычала Ад Болю
Стаць Дыктатарам Я Хачу
Каб Мая Краіна Была Гермэтычна Зачыненай
Сястра Я Хачу Каб Твар Твой
Заліў Сернай Кіслатой Чалавек Сякера
Каб Руку Табе Адарвала Выбухам Амніставанага
Газу Нашай Пліты
Каб Цябе Спаралізавала
Няхай Гэта Адбудзецца
Толькі Тады Дакажу Табе Што Ты мне Патрэбная Краіна
Дакажу Што ты Дакажу Сабе Што Шукаў Незадарма
Толькі Тады Ты Паверыш Ў Шчырасць
Дыктатара
Яшчэ Адзін Паэт Навошта Маладыя Людзі
Мусяць Працаваць Мусяць
Карміць Дыктатара І Сястру
Мусяць Быць Рабочымі Калгаснікамі
Паступаць У Пэтэвэ
Мусяць Карміць Падпарадкоўвацца Зашмат
паэтаў Маладыя Мусяць
Даваць Карысць Араць Сеяць Працаваць На
Заводах Аддавацца
Настаўнікам Настаўнікі Плоцяць За Страх
Газавая Пліта трубы Шпіёны Яны Аблыталі
Краіну Я ампутую Сваю
Краіну Перарубіць Артэрыі

12

Дыктатар беспакойна паглядзеў на раскладанку. Раптам Цукровы Чалавек, прысутнасць якога ўнутры ён адчуваў з самага раньня,

зрабіў чарговую спробу вылезьці вонкі. Сьцяўшы зубы, Дыктатар глядзеў, як цячэ з роту на шыю салодкая пена. Ён зацiснуў рот рукою. Няўжо прастора па-за межамі краіны стала для яго да такой ступені супрацьпаказальнай? Цукровы Чалавек Як Пацук Бяжыць З Тонучага Карабля.

Аглядзеў кватэру — тая быццам ратавалася ад кагосьці, батарэі равелі сірэнамі. Вакно азірнулася на яго й працягнула свой бег. На столі загарэлася жоўтае вока, не міргаючы паназірала за Дыктатарам, потым папаўзло да ягонай рукі.

Проста праехаў трамвай.

Цяжкае дыханьне за вакном пагучнела. Дыктатар зьняў з падлогі дзьве няшчыльна прыгнаныя дошкі.

Пульт кіравання краінаю не працаваў. Нехта разьбіў гліняныя кнопкі, перарэзаў правады з ашмецьця тканіны.

Дара набліжалася да Дыктатара сьпіною — у яе цэліўся тэлекамэрай хлопец у скураной безрукаўцы, рыхтаваўся спусціць курок, чакаў сігналу. Дара гучна загаварыла, адступаючы проста на Дыктатара. У цемры калідора — падалося, у далёкай-далёкай далечыні — заскрыгаталі дзьверы — ягоны няўзброены, падмануты ахоўнік.

— Дара Малярыя адмыслова для Начных Навінаў. Сёньня мы прапануем вам не зусім звычайны сюжэт...

Кватэра напаўнялася людзьмі. У вітальні адбывалася клянаваньне хлопцаў у скураных безрукаўках. Краіна тлела пад іх нагамі. Пражэктары махалі белымі кулакамі, правяралі сцены на моц.

— Рэдкія чыноўнікі цікавяцца лёсам гэтых...

Яна падаецца знаёмай, гэтая жанчына — воўк перад камэрай. Але гэта не Сястра, не, не Сястра падымае з падлогі сшытак і чытае: „Паўтарэнне Аднаго Руху Дзеяньні Памкненьні Варыянты Аднаго Руху”. Гэты тэкст, згадзіцеся...

У сшытак адразу ж зазірнула тэлекамэра.

Дыктатар сядзеў на раскладанцы й дзівіўся, чаму гэтая жанчына бязгучна адкрывае рот. Калі напраўду, дык краіна ня знішчаная. Сяляне й гандляры, інваліды й злачынцы, азёры скарбы, могілкі, Сястра, зборшчыкі падаткаў, гісторыя — усё скруцілася ў вадзін тугі клубок на шыі голага чалавека, які шырока расставіў ногі й расьцягнуў губы ў непрыгожай усмешцы.

Раптоўнае здранцьвеньне застала мяне ў куце пакою. Сёньня кут прыцягвае як ніколі моцна, хочацца прысланіцца да яго, уціснуцца ў павуціньне, адчуць, як захлопваюцца сьцены кута, нібы старонкі кнігі, стаць засохлым матылём паміж гэтымі сьценамі, усьвядоміць уласную плоскасьць, бяспеку, бескарыснасць, марнасьць, недатыкальнасць.

Быць захлопнутым у кнізе, якую ніхто не разгарне. І няхай на кнігу ляжа суровы нямы камень, тады я стану яшчэ больш тонкім, амаль нябачным. А вы рыпіце, дзьверы гэтага гулкага пад'езду, рыпіце, бы заіка, што шукае словы апраўдання. Рыпіце.

*Зіма-вясна 2001 г.*

## ГЮНТЭР ВАЛЬДХОФ і ЯГО КРЭДЫТОРЫ.

Drei Wochen war der Frosch so krank!
Jetzt raucht er wieder. Gott sei Dahk!
*W. Busch.*

1

— А мы думали, водку, — гучна сказала Алена Анатольевна. — В холодильнике водка есть, наша, „Кристалл”, не хотите?

Гюнтэр зьдзіўлена прыўзьняў бровы й нахіліўся да Жэні за тлумачэньнямі:

— Что ест: водку думать? Как это: водку думать?

У парцалянавай місе халоднай горкай узвышалася салата, побач чатыры рыбіны прытаіліся за шклом доўгай і вузкай, як прабірка, пасудзіны. У бліскучым баку напоўненай сонцам супніцы адбівалася нешта шэра-чорнае, гюнтэрападобнае. Рука Алены Анатольеўны імгненна цапнула з-пад носу ў Гюнтэра хлеб, пакінуўшы пах дарагога крэму і вельмі слабы, але значна больш натуральны дух звонкай, шумнай, белай запырсканай мойкі. Трэба было што-небудзь сказаць...

— А вы из какого города... ну там, в Германии?

Гюнтэр страпянуўся:

— Простите, йа...

— Он из Кёльна, правда, Гюнтер, — Жэня загаварыла гэтак хутка, быццам карысталася чужым сотавым тэлефонам. — Мам, ты же не думай, что он по-русски говорит как Толстой!

Трэба было глядзець кудысьці яшчэ, акрамя гэтых двух вострых конусаў пад Жэнінай майкай. Гюнтэр выбраў карціну на сьцяне: да агіды чыстая хатка, жарабяты, пастушок, азярцо з пошлым навязьлівым сонцам...

— Суп очэн вкусно, — сказаў ён і выцер сурвэткаю губы.

2

Іпалітыч — perpetuum mobile, ён заўсёды ў руху: вось і цяпер у яго торгаецца нага, нібы цiснучы на нейкую сапсаваную пэдаль — не заводзіцца, не заводзіцца! Іпалітыч сядзіць насупраць Гюнтэра, стол ягоны гэткі ж, як Гюнтэраў, і тэлефон на стале гэткі ж, і толькі плякат над галавою — з лягатыпам Канторы, а за Гюнтэрам — голая аблупленая сьцяна. Сівыя валасы мокра ўюцца па тоўстай шыі. Іпалітыч. Саныч. Філіпыч. Slawishe Schweinrei. Гюнтэр уздыхнуў і абвёў гэтыя два словы яшчэ раз, потым надаў ім аб'ёмнасьці, заштрыхаваў — літары вырасьлі ў памерах амаль удвая. Чысты аркуш, над якім Гюнтэр

сядзеў з ранку, напоўніўся сэнсам. Гюнтэр глядзеў на Іпалітыча, і рука ягоная сама, як калі б яна мясіла плястылін, пачала вастрыць у літарах вуглы, прымацоўваць куточкі й загіны — гатычны шрыфт урачыста праступаў на паперы. Які ўсё ж азіяцкі ў Іпалітыча твар... Фрыдрых Барбароса на белым кані ўваходзіў у ліфт, беглі ў прыбіральню кур'еркі, кайзэр Вільгельм у чорным ландо чакаў Гюнтэ'ра ля пад'езду Канторы, Конрад Адэнаўэр пасунуў па мармуровай дошцы ферзя на Ф 5.

— Феденька, вы не забыли, сегодня ко мне в гости...

Гюнтэр інстыктыўна прыкрыў аркуш рукой.

— В семь, и не опаздывайте. Вы ещё не знаете, какую штрафную наливает Ипполитыч!

Іпалітыч закашляўся сухім старэчым сьмехам, нарадзіў яблык і кінуў яго — Лови-оп! — у Гюнтэра. Яблык трапіў Гюнтэру ў кадык, у роце зьявілася дзіўная церпкасьць і сьліна праглынулася неяк зашумна.

— Угощайтесь, Феденька, дачные. А у вас (Есть, — глуха сказаў Гюнтэр) Дача есть?

„Ненавіджу (— Что вы сказали? — Зарплата, говорю, ниже и ниже) Загадившая славянская душа. Упоительные вечера. Раздолье”. Іпалітыч ужо другі год выведваў, дзе ў Гюнтэра лецішча. Напачатку Гюнтэр адказаў чыстую праўду, Іпалітыч забываў яе тут жа, і допыты працягваліся. Гюнтэру, не асабліваму знаўцы навакольнай геаграфіі, даводзілася ўсё цяжэй, мейсцазнаходжаньне лецішча пасоўвалася ўсё далей на поўнач і —

— А где? — прахоркаў яблыкам Іпалітыч.

— І ў вапошні раз лецішча месцілася недзе ля Вілейкі. Гюнтер кінуў яблык у шуфляду стала, дзе ўжо дагнівала трое яго суродзічаў, і ціха сказаў:

— Есть такое местечко — Илья. Не бывали там?

Левая рука Гюнтэра ўсё яшчэ прыкрывала „Slawishe Schweinerei”, хаця патрэбы ў гэтым не было. Іпалітыч быў наскрозь расейскі і нават гаварыў з гідкім круглым расейскім оканьнем, яшчэ ён ведаў крыху па-мардоўску, бо нарадзіўся ў Саранску. Замежныя мовы былі для Іпалітыча тым жа, што нотная грамата для мухі. Шэф іхны вучыў ангельскую, але ў канторскіх курылках, пускаючы высакародны дым у лісьлівыя твары падначальных, ахрэшчваў міжнародную мову няйнакш як зь вінавальным склонам у вадной руцэ й натуральнай расейскай лексыкай у другой.

— А кстати, вы в курсе, Феденька, как немцы в войну евреев находили? — Іпалітыч зноў набыў злавесную матэрыяльнасць. Іпалі-

тыч, памножаны ў аркушах, зь няспыннай нагой, якая ўсё намагалася ўключыць нешта пад сталом. Гюнтэр буркнуў: „Нудабрхн”.

— У евреев на темени мягко — палец можно вложить, — горка пасьміхнуўся Іпалітыч і прыжмурыў адно з чынгісханаўскіх вачэй.

— Вот ставили людей в ряд, ходил эсэсовец и щупал, щупал...

Іпалітыч пераможна прадэманстраваў, як знаходзілі жыдоў. Гюнтэр сунуў руку ў кішэню — там, на жаль, была толькі запальнічка.

— Пойду, отравлюсь, — нясьмела сказаў ён і падняўся. З двайным стукам на падлогу ўпала асадка... Але вечны агонь пад Мацуокам не згасаў.

— Нет выI не подумайте, что я против евреев. Они все очень... Умная очень нация. Эта мягкость у них на темени, знаете, что это?

Іпалітыч ускочыў, узяў Гюнтэра за плечы, і пацякло, забруілася:

— Космический разум, Феденька, космическая энергия! Она входит в них через это отверстие, понимаете? Потому то они такие умные, такие евреюшки... У меня жена покойная (Іпалітыч шырока, быццам у яго вырасла барада, перахрысціўся) — умная была баба. Девичья фамилия — Шейнберг.

— Извините, — зацiскаючы рукамі скроні, Гюнтэр выбег з кабінэту.

...За што я цябе гэтак люблю, Нямеччына? Праз усё асабістае даўно можна пераступіць... чаму гэткі спакой, гэткае пачуцьцё гармоніі ўваходзяць у мяне, калі я чытаю тваю гісторыю ў паскудных савецкіх кніжках, чаму мне хочацца адшукаць пад тонамі ўласне спрасаванае стомы самыя лагодныя словы, калі брат-славянін знаёміць мяне з тваімі сынамі? Кожны зь іх падаецца мне добрым іншаплянэтнікам, якому адному вядомыя самыя справядлівыя законы існаваньня. Адкуль гэтае пачуцьцё роднасьці зь немцамі, дый навогул з усімі, хто жыве на Захад ад Одэру, адкуль невыносная гідота да радзімы? Ёсьць такое ў расейцаў: “у мінулым жыцьці”... дык можа й напраўду я жыў калісь у слаўным горадзе Кёльне, і сабор тамтэйшы быў для мяне гэткім жа звычным, як цяпер пляц Перамогі. Не, гэта надта містычна, хутчэй гены. Найміт зь сялянкаю ў духмяным сене па згодзе, па каханні; напалеонаўскі жаўнер з „прапрапра” проста ў колкім жыце; шараговец Пауль, мэдальён якога выскачыў з-пад кашулі ды б'е па малочных лапатках тутэйшай кабеты — за лесам Нарач (засталіся ад Паўля толькі рожкі крыжа — сьпі спакойна, продак...). Нямеччына, Нямеччына, Нямеччына. Хохдойч, Бэрлін, Аляксандрпляц, Румкорф, Група 47, Кох, „Дойчэ Вэле”, Андэрш Борхерт, Грас, пяшчота ўмляўтаў — яшчэ цалкам не ўсвядомлены боль тугі па псэўдарадзіме. Самазман. Ілюзыя. Казка. Нямеччына, дзе мне ніколі не бываць. Бо яе

няма, той Нямеччыны. Усё выдумаў добры казачнік, які жыве на вершаліне тэлевежы, танюсенькай, з іголку, дый сам казачнік гном, эльф, ён абхапіў антэну ножкамі і распыляе казкі пра маю Нямеччыну з жоўтага балёнчыку.

...Гюнтэру адчыніў сам Іпалітыч — „Штрафную, штрафную!". Маленькая плоская жанчына прынесла Гюнтэру талерку й відэлец, ніхто ў прадымленай залі не зьвяртаў на Гюнтэра ўвагі, пакуль п'яны Іпалітыч, пачуўшы ад некага, што „водку жрали вёдрами", не зрыфмаваў зь нечаканай паэтычнасцю „вёдрами — Фёдорами" і не загаласіў: „Феденька!!!" Гюнтэр быў адразу ж выхаплены з блаславёнага забыцця — „Тост!". „Тост!" — раўлі Гюнтэру гэтак, як, мусіць, некалі раўлі гладыятрам; так равуць і цяпер, з хмяльной крыважэрнасцю, з прадчуваннем таго, што ўжо тут можна выпусьціць сваю зацкаваную дзяржаваю і проста навакольным нахабствам дохлую волю, і воля будзе выкананая. Паасобку ніхто ня стаў бы нічога патрабаваць, але цяпер, у раскошы калектыўнасці, можна было бяз страху настойваць на прыпадабненьні да сябе любога, хто яшчэ не падцьвердзіў уласнае свойскасьці. „Нет уж, тост, с вас тостик, молодой человек," — крычаў проста ў нос Гюнтэру Давідыч з суседняга адзьдзелу, хаця Гюнтэр ужо ўздымаўся з абыякавым кілішкам. „Тос! Тос!" — з радасьцю алігафрэна паўтараў пяцігадовы ўнук Іпалітыча, пляскаючы ў цнатлівыя далонькі. „То-ост! То-ост!" — гэта ўжо было скандаваннем, а скандаваньню гэтых людзей ня трэба было вучыць. Гэтак крычаць на вясельлях распухлыя бабы й маленькія тыраны, якія хочуць на раніцу ня толькі пахмелкі, але й нявесцінай крыві.

— Уважаемый Константин Ипполитович...

Гэта яшчэ патанула ў хоры, але пакрысе ўсталявалася цішыня, якая чвякала й чакала.

— Я думаю, что именно в вашем возрасте к человеку приходит настоящая мудрость...

Іпалітыча не было відаць, Гюнтэр нават ня ведаў, да якога канца стала яму зьвяртацца, толькі маленькая спалоханая жанчына была акрэсьленай у дыме.

— За вашими плечами — огромный жизненный опыт... нам, молодым, есть чему поучиться... Мы слушали... мы всегда слушали с увлечением ваши рассказы о вашей...

„Ваши" сталі „вшами", якіх тэрмінова трэба было выкалупнуць з каўтуну тосту.

— Слушали рассказы о вашем... нелёгком детстве, о вашей молодости.. Ваши советы не раз помогали нам, молодым служащим... И сегодня мне, как и моим друзьям...

Як Гюнтэр не намагаўся, „друзья” усё адно ня вылезьлі з іржавага, даўно прываранага да іх двухкосься.

— ... хочется поднять эти бо... эти рюмки за то, чтобы вы в годы настоящей мужской мудрости вспоминали свою жизнь с гордостью... „Мы, оглядываясь, видим лишь руины...” Нет, смотрите на свою жизнь с гордостью!

У танальнасці бля-мажор госьці выказалі сваё бурлівае захапленьне, кінамеханік абцёр з ілба пот, — стужка закруцілася зноў. Гюнтэр з палёгкай закусіў цёплым памідорам з пляўком маянэзуцяпер можна было не сумнявацца, што ад яго адстануць, ды толькі моцныя рукі так нечакана, што войкнула сэрца, абхапілі яго ззаду і паставілі на ногі.

— Феденька... Феденькоа! — Ну ты даёшь, ну молодца!

Іпалітыч, у бледна-блакітнай майцы, нібы выведзенай з анабіёзу, стаяў перад ім, чухаючы мокрыя грудзі. Уммм-чу, уммм-чу, уммм-чу: левай шчацэ Гюнтэра пашчасціла, яна атрымала толькі адну порцыю Іпалітычавай сліны, ў той час як правая — дзьве паўнаважкія, ісьцінна рускія пяльменіны. Урэшце Гюнтэр схаваўся ў смузе... Іпалітыч жа разыйшоўся па-юбілейнаму. „Робяты, милые мои робяты,” — пачынаў замілавана квахтаць Іпалітыч, і па гэтым чароўным знаку дзьве сьлязінкі імкнулі насустрач адна адной зь ягоных вачэй. Час ад часу Іпалітыч набіраў які-небудзь тэлефонны нумар і крычаў у слухаўку: „Хайль Гітлер!”. Калі гасьцей, здавалася, зараз званітуе ад сьмеху, Іпалітыч раптам змрачнеў (нібы надзяваў маску) і глухім голасам абвяшчаў прысутным: „Мне было семь лет, когда фашисты изнасиловали мою мать...” яму налівалі гэтак шмат, быццам плацілі вергельд за тое згвалтаванне. Іпалітыч выпіваў і крычаў маленькай кабеце: „Шнэлер, матка!” Гюнтэр, прыкідваючыся то шафаю, то закаханай парачкай, то плашчом у прыхожай, прабраўся да дзьвярэй і, як шчаня, якое цэлы дзень цярпела, выбег на вуліцу. Не, яны не спявалі „Оймарос”, яны былі інтэлігенты. Яны цягнулі „Полеру — скоепо”.

3

— Саўсем абнаглелі, — радасна сказаў гардэробшчык. — Ты ў сябя дома тожэ ў плашчэ ходзіш?

Гюнтэр рэзка спыніўся (как вкопанный — куля з амэрыканскага баевіку) і сьпіной пайшоў назад, да гардэробу. „Э, Э,” — затужыўся гардэробшчык спалохана. Гюнтэр павярнуўся да яго тварам і пачаў сьцягваць плашч, асьцярожна падтрымліваючы і так ужо пачарнелае крыссе.

С каких это пор в сентябре работает гардероб? — У руку Гюнтэра скочыў ня менш за гардэробшчыка спалоханы жэтон. — Зрэшты, гэта неістотна, — сказаў Гюнтэр сам сабе, прыгладзіў валасы і, паспрабаваўшы ўзяць букет жоўтых, распусных хрызантэмаў так, каб бібліятэкарка не падумала, што кветкі прызначаныя ёй, рушыў да залі. „Бібліятэка прыме ўдар...” — што яна прыме, заставалася ў гулкім цені калідора. Гюнтэр пакінуў бібліятэцы трохі рэха сваіх крокаў; дзьверы, так густа абклееныя разнастайнымі аб'явамі, што здаваліся папяровымі, былі адчыненыя.

Бібліятэкарку псаваў толькі сіняк пад вокам, у вастатнім яна была досыць мілая жанчына, поўненькая дзяўчынка ў ёй не капітулявала перад злой тонай мачахі, ды й было ёй гадоў дваццаць восем...

— Добры дзень, — сказаў Гюнтэр з-за сьпіны нейкай аматаркі Джаан Колінз, тая нэрвова павяла плячом, пасьпяшалася расьпісацца ды сысьці. — Добры день, — паўтарыў Гюнтэр, міжволі цэлячыся ў сіняк, і атрымаўшы адказ, паклаў кнігі на стол. — Знаете, почему сорокалетний человек наполовину мёртв?

— У вас кто-то умер? — бібліятэкарка спытала гэта зь недаверам, паглядзеўшы на хрызантэмы і адцягаўшы галаву назад.

— Потому что средняя продолжительность жизни у нас — восемьдесят лет — сказаў Гюнтэр сур'ёзна і выцягнуў адну з кнігаў, у самай тонкай вокладцы і самую тонкую, з-пад цаглінаў астатніх. — Вот тут написано (— Уфф, — сказалі вусны пад сіняком). Наверное, в сорок лет каждый рассчитывает, что доживёт до этой... средней продолжительности... надеется... ведь если раньше... это хуже, чем у людей, правда?

Гюнтэр пацёр вялікім пальцам сярэдні і ўказальны. Бібліятэкарка ўзяла абедзьвюма рукамі крэсла і падсунула сябе далей за стол, так што грудзі леглі на абанэмэнт — аднаго разу Гюнтэр заўважыў ёй, што, відаць, яе малы сын пакрэмзаў па абанэмэнце асадкаю. Сына ў яе не аказалася, затое аказалася цудоўная вільготна-зубатая ўсьмешка. Калі б не сіняк... У-у-у...

Ён распісаўся за „Зондэркаманду на заўтра”, „Пасьля сьцяны”, „Erzählungen”, „Совр. Нем. Пов.”, „Германию”, сказаў насьмешліва „Аўфвідэрзээн, фройляйн”, забраў плашч ды выйшаў пад дождж, якому, ведама ж, хрызантэмы прыйшліся даспадобы.

Жэня спазьнілася на пятнаццаць хвілінаў (дзіва, але пра гэта яму паведаміў юнак з парасонам, які прыйшоў да помніка з Гюнтэрам нага ў нагу. „Что, опаздывает? Моя тоже, а уже пятнадцать минут прошло,” — уздыхнуў уладальнік парасону, калі Жэня — хуткая, злая

— паказалася з-за помніка. „Verzeihen Sie bitte, mein hübsches Schwein”, — адказаў яму Гюнтэр і пайшоў насустрач Жэні.)

— Спасибо, — шапнула яна пасьля самага натуральнага ў сьвеце абмену паміж двума закаханымі на вуліцы. — Каждый раз новые. Новые, грю. Когда ты уже выучишь... Ничего, ещё пару моих уроков...” — Жэня паглядзела на яго з робленай салодкай млявасьцю, заўсміхалася. — Ну, это ты должен понимать душой влюблённого. Любишь меня?

— Любить! — усклікнуў Гюнтэр, нібы аддаючы камусьці загад.

— Есть, хер штандартенфюрер, падхапіла Жэня. — Идём? Эх ты, без зонта, а ещё немец... Зонт — вот это по-русски называется зонт... Не зонд, а зонт... А вот это по-русски — Гюнтер, глупый маленький Гюнтер, который рождается неизвестно где, вместо того, чтобы родиться в нормальной беларуси и любить свою женьку... Не хочу я говорить медленно, учись.

Праспэкт сцякаў пад іх нагамі ў загатаваныя норы, агаляючы сваё засьмечанае, зарамантаванае цела. Калі Гюнтэр Вальдхоф прыехаў у сталіцу Эрбэ (гэткая вось спадчына!), яна падалася яму досыць чыстаю, прынамсі, чысцейшаю за Маскву, дзе фірма хера Вальдхофа таксама адкрыла свой філіял. Але на вуліцах зьявіліся гэтыя барбары-будаўнікі і ператварылі сталіцу Эрбэ ў нейкі... как это по-русски...

— Но сначала в магазин, — гучна давершыла Жэня нешта надзвычай цікавае і дзьвюма рукамі павярнула яго да бліжэйшай вітрыны. — Кто здесь руль: ты или я? Я здесь видела — тебе понравится (яны ўвайшлі) ...Такая вещь... А у тебя СПИД...

— Обед, — сказаў ім чалавек у чорным груба і ў той жа час неяк траурна. Гаварыў ён у нос, як гэта зь нядаўніх пор прынята ў багатых трыццацігадовых падлеткаў, і ў літаратурным перакладзе гэта гучала прыкладна так: „Куда прёшь, малая, не видишь — валютный отдел!” (пераклад Г. Вальдхофа).

— Скажи ему, — Гюнтэр атрымаў кулачком у бок, выдаў усмешку № 17 і гартанна сказаў

— О, я понимать...

Адна дваццатая пазелянелага сёньня ўранку ўчорашняга заробку сьцёрла траур з твару чалавека ў чорным. — Лариска, обслужи, — кінуў ён у пустую залю.

— Good morning, — Ларыса выпала з-пад вешалак, якія колам віселі на нечым аднаногім. — What...

— Здравствуйте, — сказала Жэня, у той час як Гюнтэр мабілізаваў усе сілы на надзіманьне матрасу саліднасьці, даволі, праўда парэ-

панага. — У него с английским проблеме. Плохо учился в шуле, понимаете?

Яны прайшлі міма ампутаваных у нейкім кабарэ васьмі жаночых ног — жоўтых, чорных, белых, бязтварыя негрыцяначкі сустракалі іх у глыбіні. Жэня зьнікла за фіранкаю, прагаласавала за строгі дзелавы строй, потым выкрэсьліла яго — новыя выбары далі вячэрнюю доўгую сукенку... але потым і строй быў набыты... У мясцовыя саветы абралі ніжнюю бялізну (круцей за аленаанатольеўнаўскую) і падобныя на дзьве попельніцы пантофлі. Пазычаныя паўгады таму грошы адправіліся ў вечнае сваё качэўе...

Дождж ня скончыўся — Гюнтэр з кейсам у вадной руцэ й парасонам у другой чуў, як маленькая рука, якая схавала пальцы ў кішэню ягонага паліто, выстуквае: „Ты прелесть, Гюнтер, ты прелесть, точка-точка, тире.”

...У ложку, залітым шэрым, зь бегаючымі ценямі, дзённым сьвятлом, яна прызналася яму ўрэшце пасьля мультфільмавай барацьбы і васьмі (Гюнтэр лічыў) паўскрыкаў, чаму зь ёй здарылася тая гістэрыка ля газэтнага шапіку — яны былі ўжо блізка ад запаветнай кватэры, заставалася толькі набыць каву, і тут чорнымі зьмеямі пацякла туш, твар па-грыбному зморшчыўся, сьлёзы паліліся гэтак шчодра; кожнае суцяшальнае слова Гюнтэра (запас якога, папраўдзе, быў небагаты) служыла сігналам для новых рэзэрваў... „Почэму плакать? Всё бить карашо. Любить. Жэнья-женья” — камбінуючы ўсё гэта (шэсьць першапачатковых камбінацыяў) Гюнтэр чакаў, пакуль Жэня сама ня справіцца з сабою, што і адбылося ўрэшце.

— Понимаешь, — гаварыла яна цяпер, гледзячы кудысьці ў напрамку насатай кававаркі і пагрызваючы валасатую голень Гюнтэра. — Понимаешь, мне хочется делать такие покупки шикарно... ну, не знаю... как замужняя дама, что ли, чтобы они с порога видели в нас солидную замужнюю пару... они ведь только слуги, ведь так? Как меня испортила эта страна, Господи... мне нужно от неё лечиться... вылечи меня, Гюнтер... Они видят во мне какую-то девочку, дуру, которой повезло.:. (Жэня сказала гэта так па-двароваму, што ў Гюнтэра салодка зашчаміла недзе над жыватом)... Эта Лариска... как она смотрела — с презрением и завистью... да, с презрением и завистью. Я хочу поменяться... ведь в Германии всё будет по-другому... поменяй меня, Гюнтер... поменяться...

И яны памяняліся, і цяпер ужо Гюнтэр крычаў: аскепкі свядомасці табуном уцякалі ў чырвоныя стэпы, білася перад вачыма, як бактэрыі пад мікраскопам, каляровая, дзікіх адценняў, мазаіка, і Гюнтэр з апошніх сілаў намагаўся сабраць яе хаця б у падабенства

малюнку. Нельга было крычаць, забыўшыся, нават гэтае простае „а” мусіла быць напружаным, фанэтычна вытрыманым, тэўтонскім... доўгі, прышпораны дыфтонг паляцеў да столі.

— Когда, — сказала Жэня, грэючыся побач. І калі Гюнтэр выкупіў сябе ў жорсткіх правадыроў, што ўсё яшчэ хісталіся перад вачыма, ён адказаў: „Октобэр”.

4

Было ва ўсім гэтым уражаньне нечай злой і магутнай волі. Чалавечае ў Гюнтэры шукала вінаватых у тым, што дождж зноў ішоў, падскокваючы на мускулістых, трэніраваных нагах, як ішоў ён і ўчора, і заўчора, і навогул лета было ня лета, а нейкі „зялёны зіма”; звярынае, першабытнае ў ім банальна цешылася, па сухіх рыпучых далонях уколамі сьцьвярджалі сябе кроплі. Усё гэта ўваходзіла ў прыемнае сутыкненьне з канцом працоўнага тыдня... усё было ня так кепска. Іпалітыч, які выдаваў у гэтую хвіліну на фокусніка ў вадстаўцы, стрэліў парасонам, пацiснуў Гюнтэру руку:

— До понедельника, Феденька... А то заходите завтра в гости?

— Спасибо, я буду отсыпаться, — сказаў Гюнтэр.

— Ну тогда всего!

Субота надыйшла, як толькі Гюнтэр павярнуўся сьпіной да будынку Канторы, якая, дзякуючы адмысловаму разьмяшчэньню вокнаў, захоўвала выраз заўсёднае крыўды. Гюнтэр нават сеў у тралейбусе і некалькі прыпынкаў чытаў дрогкага Борхерта. Потым здарылася немінучае: у раёне рынку тралейбус запоўнілі розныя саракагадовыя бабулькі, а разам зь імі пах той своеасаблівай чысціні, якую звычайны дождж здольны ператварыць у вадзін з самых мярзотных водараў на сьвеце. Адна зь іх вісела па-над Гюнтэрам, нібы чытаючы ягоную кнігу — і ўстаць, саступіць мейсца не было аніякай магчымасці, хіба што лезьці кабеце пад спадніцу... Побач, пагрузіўшы локаць Гюнтэру пад рэбры, велічна сядзеў інжынэрскага выгляду мужчына з бародкаю; на ягоны чамадан, які роўна закрываў калені, спакойна магла б сесьці адна з бабулек. „Парк” і „Цырк” — як гукі выдастанай і скарыстанай запалкі... Прыпынак за прыпынкам, тралейбус — гадзіннік гораду, прыпынкі — дзяленьні на яго цыфэрбляце, жыві паводле тралейбуснага часу, ён мінае хутчэй...

— Парэнь, уступі места старухе, — закінула пробны камень адна з кабетаў і бачачы, што ён ня з моцных трнспартных духам, пачала:

— Сядзіт студзент, кнішку чытаіт. А у мяня на нагах тромбы, астма і сэрца бальноя. Я панімаю, умны, у мяня ў самой сын у учылі-

шчэ, дык он нікагда дажа ў тралейбусе ня сядзіт, ні то што этат, этаму хоць кол на галаве чашы… патаму што саўсем народ счарсьцвеў…

Слова „народ” — пароль у гэтай краіне, і аднекуль з чалавечай жыжы панеслася:

— Сами же молодых учим, воспитываем, как мы, так и они…

— Лень жопу атарваць, іньцілігент…

— Раньша дабрэй маладзёш была, панятлівей…

— Я от у газеце чытала…

Гаварыла па большасці жаночая частка пасажыра, мужчынская падзялілася на дзьве роўныя партыі: тая, што сядзела, не раўнуючы як па змове павярнулася да вакна, тая, што стаяла, глядзела на Гюнтэра з разуменнем і нянавісьцю. Гюнтэр асьцярожна загарнуў „Erzählungen” і сказаў як мага лагодней:

— Entschuldigen, ich bin Auslander, простітэ, йа плёхо понимать… Мне хотэт Торговий домм…

Агаломшаная цётка абвяла вачыма суайчыннікаў, і тут Гюнтэр зразумеў (нават дзіўна, што да яго так позна дайшла гэткая відавочная ісьціна) што ня так ужо й трэба ёй сядзець — гадамі выпрацаваны спрыт дазваляў бы й есьці, праць і нараджаць у такім палажэнні, што тут усяго толькі „de la principa”. Паўза, і пасьля паўзы:

— А я от і не пасматру, што інасранец! Я чалавек тожэ, старава чалавека вязьдзе нада уважаць. Сядзі ўжо, чурка нярускaя…

Цётка тут жа заплакала, сьляза яе ўпала на вокладку „Erzählungen” і скукожылася спалохана на гэтай абсалютна чужароднай паверхні.

— Иностранцы да евреи Русь продали за зелёные… Продали Россию дерьмократы паршивые… — ціха, але добра пастаўленым голасам сказаў сусед Гюнтэра, зьвяртаючыся больш да нейкай абстрактнай славянскай душы, чым да навакольнай грамады.

Зрэшты, стала цішэй. Людзі пазмрачнелі, сапсавала ім пятнічны вечар уварваньне нечакана масштабнага клопату: душа — родина — потомки — потё-о-о-мки… Па ціхім калідоры Гюнтэр выйшаў ля Гандлёвага дому. Два бліжэйшыя аўтаматы адгукнуліся манатоннымі гудкамі, трэці таксама. На вуліцы ўжо шарэла. Выслухаўшы цэлую гісторыю няшчаснага каханьня (прычым, як ён не намагаўся, Гюнтэр запомніў яе слова ў слова, уключаючы ўсялякія мілыя дробязі накшталт „Его серые носки”) яму ўсё ж удалося набраць Жэнін нумар у самым дальнім аўтамаце. На шчасьце, слухаўку падняла яна:

— Опаздываешь, Гюнтер, милый… У меня тут с маман разговор (гэта было сказана шэптам, у слухаўцы тэлефонны народзец раз-пораз камечыў нейкую гучную паперу, і апрача слова „Гюнтэр” усё астатняе

ён дадумаў сам, — зрэшты, як яму здавалася, — правільна). Папа вернулся, сидит на кухне, варенье жрёт... Ты купил? Ну заезжай быстрее, да смотри не переплачивай таксисту...

На гэты раз прыступкі былі адоленыя лягчэй, далей усё проста: Жэніна трапяткая рука ў небе, код, ліфт, які сёньня пах неяк паіншаму. Жэня адчыніла яму, з кухні вызірнула Алена Анатольеўна і тут жа перамясціла цэнтар цяжару ў прыхожую. — Здраустуйтэе, Елена Анатольевна, это фам, — тэст атрымаўся досыць элегантны, Алена Анатольеўна вохнула і адразу ж начапіла кальцо на мокры, увешаны кужэляю пены, палец: „Гюнтер... Спасибо... но... Красота-то какая... Благодарю...” за Аленай Анатольеўнай вырас цудоўны экзэмпляр вусатага скептыка па жыцьці, „цехнара” па адукацыі, ускормленага перабудоваю і прыплюснутага дзевяностымі гадамі. Ён зь вясёлым недаўменнем глядзеў на Гюнтэра, трымаючы у руцэ бліскучую лыжачку з напаўаблізаным варэньнем.

— Так это ты с моей Женькой ходишь, — працягнуў ён прывітальную фразу так, быццам прымерваў шпалеры да кута спачывальні.

— Гюнтэр, — рука Гюнтэра была паціснутая без залішняга інтарэсу, як і сказанае мімаходзь „Саша”.

— Ну проходи, — хітнуў „Саша” галавой на залю. — А вы пока сварганьте чего-нибудь, — гэта было сказана без уладнасці.

— Так вот ты какой, северный олень, — сказаў гаспадар, бессаромна разглядаючы Гюнтэра.

— По-русски понимаешь?

— Чуть-чуть, — сказаў Гюнтэр.

Аляксандр Паўлавіч трымаўся нязмушана, усё

Ў ім уваскрашала ў памяці такія забытыя словы, як „абшчага”, „танцпляцоўка”, „інстытуцкі КВН”, ды яшчэ які-небудзь „сапрамат”... Хутка Гюнтэр разбэшчаны фамільярнасцю гаспадара ды ягонымі заахвочвальнымі ўсьмешкамі, ужо глядзеў на рудавата-алімпійскія вусікі Аляксандра Паўлавіча бяз страху й нават паспрабаваў разабрацца ў структуры аднаго канструктарскага бюро. — Это как государство в государстве, штат ин штат, — бліснуў Аляксандр Паўлавіч з-пад вусоў трыма неадшліфаванымі дыямэнтамі, і Гюнтэр, счакаўшы, адкаркаваўся воплескамі, не забыўшы прадказальнае, але неабходнае „карашо”. — Ну, прозит, как говорят у вас, — выкінуў Аляксандр Паўлавіч руку, быццам хацеў зацыраваць прабіты стрэсамі дзень. — Я ведь был в гэдээр, да, Сансусй, Брандэрбурх, Александрплатц... Ну, обмен опытом, понимаешь. Хотя куда тебе, капиталисту, до этого... херово было, застой, конечно, довели комуняки страну до цугундера...

Пры слове „цугундер” Гюнтэр ускінуў бровы, нібы з толькі што спараджонай гаспадаром цікаўнасцю, а Аляксандр Паўлавіч наліваў ўжо другую.

— В шашки играешь? Сыграем, сделаем Германию...

Кухонная атмасфэра, у якой Гюнтэр мусіў падтрымліваць пастаянны ўзровень насьцярогі і адлегласці, небяспечна дабрэла. Славянская паршывая душа Гюнтэра ляцела да шырокай душышчы Аляксандра Паўлавіча з хуткасцю тых самых цягнікоў, адзін зь якіх выйшаў з пункту А, другі — з пункту В, і якія абавязкова сутыкнуцца ў пункце С, якім зьяўляецца стрэлачнік...

А Аляксандр Паўлавіч ужо велікадушна прайграваў Гюнтэру пятую партыю ў шашкі пасьля чатырох бліскуча выйграных, і хацеў засунуць у кейс Гюнтэра самаробны CD-шнік, марна калупаючы зakрыўкі. „Ты только глянь: ничего лишнего! Сделан в часы досуга! У тебя в Германии обосрутся от зависти! Запатентуешь за хорошие бабки и...”. Небясьпечна ўсё было, але нават чуйная, як тыгрыца, Жэня падыйшла да Гюнтэра ззаду, абняла, счапіла на ягоным жываце маленькія далоні; зморшчыўшыся салодка, уцягнула ў ноздры ня гэтага, не, — таго, мокрага Гюнтэра пад помнікам... Алена Анатольеўна, як купчыха, ружавела ад лазьнева-венічнай гарбаты... Гюнтэру нават прыйшла цацачная думачка: ці не даверыцца яму аднаму добраму чалавеку, рэжысёру Іраклію, зь якім столькі было выпіта, выспрачана, высьмеяна, выкахана, выезджана... — скласці зь ім дуэт: „Это мой freund Otto, он софсем не гофорить руски”, а Otto рабіў бы вялікія вочы й дзівіўся belorussische Exothick, але гэта была менавіта цацачная думка, жарт для сябе самога...

— А вот ещё один анекдот... ста-а-а-рый... — Аляксандр Паўлавіч па-студэнцку засьмяяўся. Мінулая показка, над якой Гюнтэр ветліва патрос галавою, правалілася кудысьці за падкладку гэтага вечара, і выдастаць яе адтуль не было аніякае магчымасці. — Короче, встречаются как-то раз русский, немец и поляк...

Чырвоны твар Алены Анатольеўны казаў з дабрадушным неразуменьнем: „Няўжо вам, Гюнтэр, падабаецца гэтая балбатня?” Жэня крычала недзе ў тэлефон: „Субстантивация! Суб-стан-ти-вация!”

— Ну, точнее, не встречаются, а...

Тут жывёла перагрызла ашыйнік... Гюнтэр ускочыў, і ягоны кулак з чароўнай дакладнасцю знайшоў на стале тое мейсца, адкуль пайшла звонкая хваля: дзьве талеркі ляпнуліся на падлогу і з зубным стукам пацалаваліся; лыжкі пацепаліся, бутэлька зь недапітаю гарэлкаю, па-балетнаму пакруціўшыся на адной назе, страціла ўрэшце раўнавагу і наводмах ударыла слоік з варэньнем, раскалоўшыся сама;

два звараных яйкі пакаціліся насустрач адно аднаму, ерэтычна наблізіўшы вялікадзень. Гюнтэр, зь незразумелай слодыччу аддаючыся свайму шаленству, ударыў па стале яшчэ раз:

— Не позволять! Как ви сметь! Scheise! Это ест оскорбление!

...Ён адплюшчыў вочы: аказалася, што ён знаходзіцца ў невялікім сарайчыку... празь няшчыльна прыгнаныя дошкі сьцяны прабівалася яркае сонечнае сьвятло. Са столі зьвісалі конскія хвасты... пахла чымсьці вельмі знаёмым. Гюнтэр застагнаў і павярнуўся на другі бок: усё адразу ж непрыемна высьветлілася. Ён ляжаў на жэніных каленях, пальцы яе, пастаўленыя венчыкам, закрывалі яму твар. Па-над ім узвышалася аграмадзіна піяніна ў

зялёнай, з бахрамой, накідцы.

— Я же не знал, — чулася за сьцяной, — Откуда ж я мог знать?

— Споил, козёл старый, немчика, — Алена Анатольевна гаварыла з прысвістам. — Женьке все испортил... Это же наш шанс!

— Я не знал, — паўтарыў Аляксандр Паўлавіч.

— Откуда я мог знать?

— Заткнитесь, — гучна прашаптала Жэня, і з кухні паказаліся два вінаватыя твары, — Гюнтер, ты как, лучше?

Гюнтэр падняўся (нага-твар-рука-нага), апраўіў кашулю, зьняў скамечаны гальштук і паклаў яго ў кішэню. Аляксандр Паўлавіч і Алена Анатольеўна ўжо імкнулі да яго, і дух апраўданьня ляцеў перад імі, водзячы ўяўным пальцам па ўяўным стале.

— Нэт, нэт, — прамармытаў Гюнтэр. — Я... как это по-русски... сам виноват... Ich verlor Kontroi... Простите... Простите я... Что вы, что вы, — хутка загаварыла Алена Анатольеўна. — Мы обидели вас, Гюнтер, это вы нас... простите... пожалуйста...

Аляксандр Паўлавіч, як першакурснік, схаваў губы ў вусы.

— А знаете, оставайтесь у нас, поздно уже, в гостиницу, я говорю, поздно идти... Кстати, вы в какой гостинице остановились?

— Оставайся, Гюнтер, — сказаў Аляксандр Паўлавіч, асуджаны« гледзячы на жонку. — Ты, кстати, не желаешь завтра с Женькой в деревню к моему бате рвануть? Места там... замечательные... на соломе поспишь... экзотика... будет что вспомнить в твоей пластиковой Европе.

Гюнтэр пастаяў нерухома, потым паставіў кейс ля фатэля. — Вот и хорошо, — усьміхнулася Алена Анатольеўна і паспрабавала спакусіць яго Жэняй: „Доча! Стели в зале!” Пятніца скончылася.

І ўсё ж — аўтобусам. „Хочу смотреть Natur…” — „Прыроду”, — падказала Жэня і прыгладзіла Гюнтэру індзейскую пасмачку. Яны стаялі пад яшчэ не прасохлым і прыкметна перакрыўленым навесам аўтавакзалу, і вакол іх, ужо амаль назаляючы, мітусілася прыбіральшчыца, з паравозным стукам цягаючы за сабой вядро. Сонца скакала ў лужынах, чыгуначная трава паўзла па бэтоннай агароджы — перадавыя яе атрады ўжо прыглядаліся да чэзлых падарожнікаў у асфальтавым ярме; ар'ергард, пакідаючы на агароджы невялікія паселішчы, быў пакуль на другім баку. Паблізу машыны зь вільготным вурканьнем адольвалі каламутную, у вясёлкавых разводах, ваду…

На суседняй лаўцы чалавек дзесяць маладзёнаў у чорных бэрэтах смурна глядзелі перад сабой, далёка адставіўшы доўгія зашнураваныя ногі і старанна дэманструючы паўпустому вакзалу белыя нарукаўныя павязкі з трыма літарамі: РНЕ. — Кто это? — спытаў Гюнтэр з трывогаю, не дазволіўшы, аднак, нянавісьці ні на каліва быць пачутай. — А, придурки, — адказала Жэня бесклапотна, жуючы „Dirol” пра нешта сваё.

— Нэт, мне… йнтэрэсно… — Гюнтэр павярнуўся да Жэні ўсім сваім парэзаным пасьля нэрвовага ранішняга галеньня тварам.

— Прыщик, — матыльковая ўсьмешка Жэні вылецела з сачка, але тут жа сетка бязьлітасна яго накрыла. — Оп, — ушчыкнула яна яго даволі балюча. — Ладно, пусть пока сидит… Ну, эти… как их… Русский национальный союз., или нет… ну, короче, я сама в этом не очень-то разбираюсь… делать ребятам нехрен…

Гюнтэр дастаў нататнік і запісаў каліграфічна, залацістым пяром: „Nechren”. „Правильно?” — спытаў ён, але тая, нават не зірнуўшы, пазяхнула і сказала „Ага”. У нататніку Гюнтэра ўжо былі „пофиг”,”херня”, „лох”, „камок” і яшчэ адно запаветнае слова… у выкананні Жэні яно гучала майскім хрушчам… „з” і „д” у ім былі гэткія гітарныя…

Урэшце яны ўладкаваліся ў сырым аўтобусе зь бязбольнымі фіранкамі салатавага колеру. Аўтобус пакутліва доўга выбіраўся з гарадзкіх межаў; потым выбраўся, матор уздыхнуў вальней, як пасьля ранішняга адплёўваньня — пацягнуліся катэджы, хатэджы, лецішчы і ГАІшчы. Жэня намагалася быць у тонусе, — А у меня тридцать восьмое, а у тебя тридцать седьмое! — але потым неяк склалася й заснула пад пахаю ў Гюнтэра. Наперадзе двое, па ўсёй бачнасьці не знаёмыя адно з адным, чыталі газэты, і Гюнтэр бачыў за махнатым вухам таго, што сядзеў справа, два вялікія беларускія словы — адно зь іх, падпарадкоўваючыся аўтобуснаму пахістваньню, калі-нікалі губляла першую літару, і тады Гюнтэру выразна чыталася: „Народная

Оля”. Ён цярпліва глядзеў на бачаныя тысячы разоў бурыя краявіды за вакном, калі чалавек з „Народнаю Оляю” раптам павярнуўся да яго і сказаў з абурэньнем:

— Не, ён ужо пераходзіць усякія граніцы! Абвінаваціць фронт у выкраданні Бабацкага! Гэта ж відавочная лухта! Падавіўся б ён сваім языком! Прабачце, — сказаў ён цішэй, заўважыўшы, як падымаецца на локці Жэня, з вачыма, яшчэ поўнымі вязкага аўтобуснага сну.

Аматар „Народнай Олі” быў прыемнай (інакш ня скажаш — правільныя рысы твару, добрая лінія тоўстага роту, зморшчынкі ля вачэй, ахайная прычоска, дзесяць запаведзяў пад вейкамі) зьнешнасьці мужчына. Ён, відаць было, звыкся з усеагульным даверам — нават зусім незнаёмых людзй. Пасажыры вакол заварушыліся, пачуўшы мяйсцовую мову: нехта ікнуў, падавіўшыся печывам, нехта ўжо сунуў наперад цікаўную галаву, нехта пра сябе адзначыў: „Во.” Жэня ж проста паціснула плячыма.

— Толькі не кажыце, што прэзідэнту мяшают! — сярдзіта сказаў нашчадак Багушэвіча. — Ня бойцеся, вы ж маладыя, гэта ў нас страх у генах! Ня бойцеся, — паўтарыў ён і потым наўмысна гучна: „Думаю, сярод нас няма агентаў Шэймана?”

— Он немец, по-белорусски совсем не понимает, — шкада, але Жэня ўсё ж уступіла ў гэтую размову, якой Гюнтэр так не хацеў. — И не кричите вы так, башка раскалывается...

— Немец? Дык вам і трэба ўсё гэта ведаць, — беларус абапёрся на сьпінку свайго сядзеньня і нават трохі прыўстаў. — Распавядзіце... ладно, перейду на паганую маскальскую мову... расскажите... а по-русски он понимает?

— Чу-чуть, — сказаў Гюнтэр.

— Ну, будете переводчицей, — нібы даючы доўгачаканае дазваленьне, радасна сказаў іхны суразмоўца. — Так вот, я говорю... Кстати, меня зовут Пятрусь Аборка.

— Жэня, — сказала Жэня й зноў прыхінулася да Гюнтэра. Позех усё ж перамог яе й вылез, падміргваючы. Гюнтэр Вальдхоф, — выдыхнуў Гюнтэр і абняў Жэню зацеклай рукой.

— Уважаемый Гюнтер, вы напишите в Германию: в Беларуси действительно нарушают права человека. Здесь геноцид, целую нацию духовно уничтожают. Да здесь... вы же сами видите — полицейское государство! Напишите, опубликуйте... это ваш... ну, не знаю... долг! Вы откуда, кстати?

— Кёльн, — праваркатала зь летуценнай усмешкай Жэня.

— Вот и напишите в какой-нибудь „Кёльнский цайтунг” (Гюнтэр лянотна запляскаў у ладкі) про то, что у нас твориться... такое

впечатление... все эти ваши обээсье наблюдают за Беларусью, как за тараканьими бегами... не делают ничего тривиального... то есть реального... а нам нужна помощь международной супольности... и господин Вик...

Гюнтэр уладкаваўся зручней і пачаў, з саліднымі, важкімі паўзамі:

— Я, конечно, не фсё понимать... но я понимать... я понял... койе-что... Я жил здэсь год... и я видеть первий чэловек... кто говорить беларуски и так думать...

Гюнтэр зрабіў задуменны твар і пастараўся, каб працу ягонай думкі перадавалі нават нос і вушы.

— Я не виду...

— Вижу, — раздражнёна сказала Жэня.

— ...не вижу беларуски нация... я вижу чу-чуть люди... который... ммм... хотеть она называться...

Но это не есть нация... Я думать что беларусы... терьять своё сафтра...,— гэта ён сказаў з салодкім садысцкім задаволеннем, — Но конечно... я понимать... ви иметь... плёхое история... Unglucklische Volk... О, я просить просчения...

Зморшчыны вярнуліся на мейсца.

— Вы не понимаете, — з гарачай перакананасцю загаварыў Пятрусь Аборка. — Вот в Великом Княжестве Литовском беларуский был языком справаводства... а военные победы! Князь Альгерд... а Витаўт! А кто книгопечатание в Москву привёз?

— Честное слово, не я, — сур'ёзна сказала Жэня.

— ...А этот мудак задушил наше Адраджэнне... и в Россию тянет...

— Я тошэ чу-чуть знать... история... — усміхнуўся Гюнтэр. — Народ... который іметь Ренессанс раз в пятьдесят лет..., — Гюнтэр зьняў руку з успацелай Жэнінай спіны, — и так и не родить... простите, не возродить... себья... это... это странно.

Гюнтэр пазяхнуў проста ў твар Петрусю.

— Und noch. В Европа мало снать про Беларус и про этот фаш... Большое Латышское Княжество... Простите.

— Вы поймёте, — пляснула зь Петруся жарсьцю. — Вы ведь в провинцию едете? Там беларусы живут. Вы увидите своими глазами... Вы услышите..

— Вы услышите своими ушами, вы попробуете на язык, вы унюхаете своим носом, — насмешліва сказала Жэня. — Петрусь, не спорьте с ним, он всё равно не понял половины ваших словоизлияний. Блин, едем так долго, а ещё даже до Молодечно не доехали...

...У Вілейцы йшоў дождж — ягоны транспарт абагнаў аўтобус недзе на шашы. Гюнтэр і Жэня прасядзелі ўсе пятнаццаць хвілінаў стаянкі ў аўтобусе... кіроўца якраз пад іхнімі вокнамі разьмінаўся й бессаромна, засяроджана часаў сябе паміж ног. „Scheise," — сказаў Гюнтэр і завесіў фіранку. Пасьля ўпартага супраціву сарака хвілінаў яны саскочылі на ўзбочыну ў змрочным бязьлюдным мейсцы. (сцяжынка, галінка, мурашнік, паляны, вершаліны дрэваў, птушыныя галасы — некалькі хвілінаў яны моўчкі йшлі праз сапсаваны беларускай літаратурай лес, які гэтак прагнуў закінуць ім за каўнер пару кропляў, цяжкіх, сцюдзёных. Жэня ажыла, набрала падасінавікаў і кабылак, якія выкінула пад бліжэйшай сасной, забегла далёка наперад і раптоўна вылецела з хмызьняку: „Партизанен!». Хутка яна абтрасала са спадніцы ўчэпістыя іголкі, пакуль Гюнтэр зашпільваў нагавіцы зь вялікаю плямаю на левам калене, пасярэдзіне якой уладкавалася нешта васьмілапае... Але ў іх чамусьці нічога не атрымалася... Жэню гэта не засмуціла. Нарэшце забялела, затарахцела — да вёскі заставалася зусім нічога. Насустрач ім рыпела на ровары кабета ў сіняй мужчынскай куртцы і ў гумовых ботах. Параўняўшыся зь імі, кабета лёгка саскочыла на зямлю й сказала, шырока разяваючы рот:

— Во, мінскія прыехалі! Здраўствуй, Жэня, саўсем бальшая стала, можа й замуж ужо, га? Не? А бацька прыехаў?

— Здрасьте, тётка Ванда. Я с Гюнтером, он немец, везу к деду знакомить...

— Здрасьці, — засаромелася цётка Ванда. — Ну, я паехала, мне яшчэ ў магазін трэба, наш трэйці дзень не работае. Захадзіце ў госьці, не забыла, дзе мая хата?

Кабета паехала далей, а яны ўвайшлі ў вёску, дзе амаль адразу ж — Смотри! — іх сустрэла жоўтая хаціна, ля якой, нібы зьбіраючыся фатаграфавацца, стаялі дзед з бабаю. На грудзёх дзеда ўспыхвала й гасла гронка мэдалёў і ордэнскіх плянак. Бабка, зрэшты, ніякага дачынення да Жэнінай фаміліі ня мела і адразу ж адплыла, цяжка перакульваючы на бок свае капусныя клубы. Дзед жа, пусты рукаў якога, запраўлены ў нагрудную кішэню, быццам шукаў там чагосьці — акуляры, папяросы альбо іншых якіх маленькіх сяброў, нічога не сказаў на гюнтэрава прывітанне. Ён толькі паглядзеў на госьця ўважліва, але памяць выдавала дзеду ня тыя, ня тыя фота: Гюнтэр быў на іх, але або сьпіною, альбо схіліўшы твар, альбо ў цені...

Ля брамкі суседзкія дзеці эксгумавалі нешта ў пяску, і цьвёрдае „ч", як камякі гліны, шмякала па слыху. Гюнтэр усьлед за Жэняю

прайшоў праз досыць дагледжаны двор і пад радаснае гаўканьне ўвайшоў у хату.

Жэня адразу ж, нібы ў яе вырасьлі дадатковыя рукі, бурліва пачала распакоўваць рэчы — „Во, деда, будешь первый модник на деревне!” Гюнтэраў кейс стаяў ля качаргі, як канцлер Шродэр з Алаізай Пашкевіч ля алтара. На прасьцюжанай трасянцы загаманіў тэлефон — дзед асірацелай рукой зьняў слухаўку.

— Здраўствуй, сыночак... Прыехалі, прыехалі... А, патроху... Ну зараз будзем. Бліноў во, смятаны. Ты ж... А... Ты б сам там меньша піў... Ну ўсё, усё, добра... Алене скажы, каб Зоі пазваніла, не забудзь... Ну ўсё... Усё..

— ...Немец, значыць, — за сталом дзед урэшце зьвярнуўся да Гюнтэра. — Многа пра вас гаворать...

Гюнтэр, па-майстэрску імітуючы прафана ў блінных справах, усё ніяк ня мог адвесьці вачэй ад указальнага Жэнінага пальца, які яна самааддана аблізвала.

— Немец, эхе... Я, канешна, вышшага абразаванія ня ймею, але ж мы так мяркуем: немцы — народ рабацяшчы, культурны... Тока знаеш, многа я тваіх к праайцам адправіў... ты не абіжайся... і ў Германіі тваёй быў...

С О, я понимать, — сказаў Гюнтэр пакорліва, — Я фсё понимать...

— Дед, — уставіла Жэня. — Дед, кончай...

— Да, і ў Германіі быў, — павысіў голас дзед, разбавіўшы, аднак, строгасьць усьмешачкай. — У саставе восемдзесят другой гвардзейскай дывізіі...

— Дед, мама договорилась насчёт больницы, — рот Жэні быў часова вольны. — Отлежишься зимой, а то с сердцем у тебя... я знаю...

— Бывала, з самага утра ляжыш у сасёнках, увесь у расе... сьпіну зводзіць, вада ў салагах... — кавалак сала, які дзед узяў некалькі хвілінаў таму, так пакуль і не дайшоў да мэты. — А тут вашы Паулі-Міхелі праз поле... і адной вочарадзьдзю, прасьці Госпадзе, як збрыў...

— Дед, что-то ты не то говоришь, — сказала Жэня з дакорам, у той час як Гюнтэр адсунуў ад сябе талерку з жоўта-белым азярцом і цяпер намагаўся глядзець дзеду проста ў вочы. — Дед, ну причём тут это?

— Інагда і падумаеш, чаго ты іх так, асобенна ў Германіі кагда былі, — як у трансе працягваў дзед. — А патом успомніш, як яны ў сорак утарым прадзеда твайго, Казіміра Адамыча...

— Знаю, знаю, — сказала жалезная, гранітная, непрабівальная, надзейная, як дойчмарка, Жэня. — Только было это пятьдесят с

хвостиком лет назад, больше чем полвека. Гюнтера тогда ещё на свете не было, и даже отца его не было... Как не было миллионов немцев и их отцов. А теперь что, молодым честным немцам жить с чувством вины за своих ... ошибавшихся предков? Понимаешь, деда?

— Нэт, я фсё понимать, — сказаў Гюнтэр. — Это было очэн плёхо...

— Ні храна ты не панімать! — заварушыў чорнымі губамі дзед. — Вы яшчэ да канца сьвету будзеце перад Богам прашчэнія прасіць.

— Простите... я курить... спасибо... сад очэн красивый, — Гюнтэр рашуча выйшаў у сенцы. Абуваючы пантофлі, ён пачуў, як пасьля кароткага зацішша дзед Павел сказаў:

— Што, у Мінску нармальныя хлопцы перавяліся, што ты за немцамі бегаеш? Сьвет цяпер такі... Што ты ў ім нашла, у фрыцэ гэным... Маладая яшчэ, патом паймёш... Папользуецца табой і бросіць, а за граніцай знаеш як... Там з гаўна грошы робяць, ня то што з кінутай бабы... Газета во нядаўна пісала...

— Деда, он в меня по уши влюблён, — сказала Жэня па-змоўніцку. — В Германию уеду, потом вам здесь жизнь обеспечу. Гюнтер — он богатый... Ты ж телевизор смотришь, ты ж видишь, какая тут срань... Мотать отсюда надо, пока открыто. Для этого все средства хороши...

Гук, які пачуўся пасьля гэтага, прымусіў Гюнтэра маланкава завязаць шнуркі й выскачыць з хаты. Наўздагон яму яшчэ вылецела прыемна неславянская назва нейкага леку; ён запаліў і пайшоў у сад, які ад няма чаго рабіць шпурляўся кроплямі. Белую пену ў небе пакідаў за сабой самалёт, пахла падгнілым дрэвам, раптам нехта рохкнуў проста ў вуха, Гюнтэр адхіснуўся ад пакрытага клінапісам вугла хлеву і, пасьлізнуўшыся, упаў на адну руку. Пад нагамі, у траве, пакінула лёгкі намёк на сваё існаваньне жабка. Гюнтэр дастаў насоўку й выцер далонь. Беспрасьветная славянская тупасьць. Сялянскі культ крыўды. Тут мінулае сядзіць верхам на цяперашнім, а цяпершчына церпіць, цяпершчына — соннае сёньня. Узяць сябе ў рукі. Што за справа Гюнтэру Вальдхофу са слаўнага гораду Кёльну да нейкага дзеда, якому лёс даўно адпускае жыцьцё ў крэдыт.

...Яны адпраўляліся на нямецкія могілкі, якія Жэня даўно абяцала яму паказаць, але ў брамцы сутыкнуліся з дужым маладзеем, той загарадзіў ім дарогу і, не зварочваючы на гэта ўвагі, спыніўся і заравеў у двор: — Казімірыч! Казімірыч, любіць цябе канём!

Дзед Павел павольна спусьціўся з ганку, але да брамкі падыходзіць ня стаў.

— Казімірыч, любіць цябе канём, адалжы лімон!

— Дык магазін жа ня робіць...

— Робіць, любіць яго канём! Валька тока што адкрыла! Скарэй, Казімірыч, а то мне ...

...Гюнтэр пасьпяхова ўдаваў захапленьне тым, што апошняе слова іхняга госьця меў у нататніку, і зьдзіўленьне тым, што дзед Павел гадуе цытрусавыя ў суровым беларускім клімаце. Яны йшлі па лясной дарозе з двума вялікімі калеямі ад ЗІЛаў — фаварытаў тутэйшых мясьцінаў. Нарэшце Гюнтэр атрымаў усе тлумачэнні і сказаў змрочна:

— Я понимать... Тепер я всё понимать...

— Ну слава богу, — сказала Жэня, якой тлумачэнні не прыносілі асаблівай радасці. — Кладбище вон за тем поворотом...

(...У матавым зьзяньні спэрматазоіды п'юць на дваіх пляшку „Вішнёвага водару”. Альбо „Вікторыі”. Альбо „Асенняга”. Альбо „(світанку”. Альбо „Загадкі”. Беларускія мужчыны выконваюць свой доўг.)

— Глупый маленький Гюнтер, — правуркатала Жэня. — Думает про всякую ерунду и совсем забыл свою Женечку. Свою женю-жену, ведь я твоя жена?

(...І замбіну хопіць на ўсіх. Бо сёлета ў нас багаты ўраджай, яблыкі велічынёю з галаву немаўляці, памерам зь месяц. З паветраны шар. Яблыкі як цэпэліны вісяць над Лоевам, Хойнікамі, Горадняй, Навагрудкам, Докшыцамі, Наваполацкам, летась нам было ўсёадно, а сёлета ўсё адней. Красным цветом — после деноминации.)

— ...и вот про эту Людку рассказывают, что жила она с турком в Борисове, а этот турок сдавал её в аренду своим... — Жэня хлюпнула гумавым ботам.

(... Спэрматазоід-абраньнік. Ён адпраўляецца ў свой шлях на аўтапілоце, ён вырублены трыццацю абаротамі. Беларускі хлопчык. Замбін ля рэчкі, дзе елка ў пары з хваіною як маладыя ў час каханьня.)

— Ну вот оно, кладбище... Не впечатляет?

Жэня спусьцілася з дарогі, не даходзячы да

роўных, як валасы на галаве навабранца, крыжыкаў, якія гуртаваліся ў роты між анархічных зараснікаў пустазельля, пачала рваць пабітыя дажджом кветкі.

(— В этом особенность нашей ру... славянскай души, — басіць ў духмяныя вусы папулярны расейскі кінарэжысэр. — Ру... славянский человек пьёт из-за вселенской тоски, американцу этого не понять... Пьянство — двери, которые соответствуют размаху нашего человека. Моя новая комедия — о таком, знаете, деревенском алкоголике, весельчаке, и вот он со своим другом, тоже алкоголиком, и со своей

женой, тоже алкоголичкой... Но не буду раскрывать творческих задумок. Обещаю — будет ужасно смешно.)

6

Да нагі прымацаваная стрэлка гадзіньніка. Кожны рух яна адзначае як карыснае дзеяньне. Я сяджу на стале й калыхаю нагой. Гэта агонія працоўнага дня. Дваццаць хвілінаў да шасьці.

...Іпалітыч сёньня прыемна нешматслоўны — усё правярае чарговую вэрсыю паломкі гэтай загадкавай пэдалі пад сталом. Затое радыё... Заткнуць рот радыё... Няхай падавіцца яно ўраджаямі, ураджэямі, дажджэямі, ды-джэямі, ідэямі. Ідэямі, ідэяфа, ідэясоль, ідэяля, ідэясі. Нямеччына. Нямеччына. Нямеччына. Мой бацька, Адальбэрт Вальдхоф, меў мэблевую майстэрню на Рыгерштрасэ, 18. Мая маці — настаўніца ў каталіцкай школе. Мяне завуць Гюнтэр Вальдхоф.

Тэлефон.

— Да, — коратка кінуў Гюнтэр у слухаўку, хаця сам ненавідзеў гэтую тубыльскую звычку адказваць сьцвярджальна нават пры адсутнасці пытаньня. — Да, слушаю...

— Ну что, Фёдор, узнаёшь? — і аднекуль з-за плінтуса сьвядомасьці ўзьнікла: чалавек з васкова-вясковым тварам, стрыжаны пад тыфознага... Андрэй, Аляксандр, Альберт, Апалён, Адоніс, Афанасій, А...

— Артур, — сказаў Гюнтэр механічна. — Артур, привет.

— Знаешь, что мне сниться, — сказала слухаўка задушэўна. — Мне сниться, что ты мне отдаёшь долг. Надеюсь, помнишь? Штука бакинских...

„Что за пошлый слог, Артур Петрович,” — так і хацелася сказаць Гюнтэру ў тон гэтай бядзе, але ён маўчаў.

— Третьего верну, — слухаўка заакторствавала. — Третьего верну, а сейчас у нас (патрабавалася ўявіць каляндар з лашчонымі лістамі) сентябрь! СЕНТЯБРЬ!

— Молчишь, — уздыхнула слухаўка. — Хорошо молчать, когда ходишь в таком плаще... Кейсик небось на триста потянул? А туфельки? Сотка, полагаю?

У дзьвярох вырасла белая, у плямах поту, якія наглядна тлумачылі анатомію чалавека, фігура шэфа, ён няўхвальна паглядзеў на Гюнтэра й пачаў нешта патрабаваць ад Іпалітыча.

— Значит, так, — слухаўка стала строгай. — Я тебе даю неделю. В следующий понедельник жду тебя с деньгами. А иначе... Платон мне друг, но... Извини, Федя. Адресок помнишь: Каплан, 22.

Жду.

„Жду, жду, жду...” — працягвала сьпяваць слухаўка. Гюнтэр зірнуў на Іпалітыча

— Без десяти шесть, — з гатоўнасьцю сказаў той І — плашч, кейс, прыступкі, вуліца. Нельга сказаць, што плястмасавы з дзьвюма адтулінамі Артур спалохаў роспачную ракавіну, у якой Гюнтэр жыў апошнія паўгады. Не, ён толькі дадаў трошкі больш безнадзейнасьці, на гэты раз вострай, як прыправа для супу. Гюнтэр прайшоў міма аўтобуснага прыпынку, на якім чалавек дзесяць спрабавала — і не бяз посьпеху — не заўважаць пару экскрэмэнтаў, пакінутых, без сумненьня, homo sapiens, абмінуў „хутка — смачна”, краму цацак, трох сьляпых міліцыянтаў з сабакам-правадыром... яшчэ адзін прыпынак, бэтонныя пліты, за якімі будаўнікі займаліся нечым загадкава-гучным, перайшоў па гарачым, як у дзень Апакаліпсісу, асфальце на другі бок вуліцы...

Ён заўсёды называў яе „Девушка, продающая пирожки”. Яе твар зусім ня цешыў Гюнтэраў густ, але быў верасень, і было ў ёй такое ўнутранае сьвятло, якое напаўняла гэтыя шэсьць вялікіх, быццам накладных, пасмаў на шырокім ілбе, і ламаныя рысы твару, і густыя чорныя бровы дзіўнай лагодай. Ён набываў у яе часам, ня ў сілах пазбавіцца ад паганай савецкай звычкі, гэтую залацістую лаву, пад якой былі пахаваныя то пару плюхаў бульбы, то некалькі рысавых зярнятак. З маленства Гюнтэр памятаў жахлівыя аповеды маці („Никогда не ешь эту гадость!”) пра пазаўчорашнія абеды ў папраўчых калёніях, якія злы геній кулінараў ператварыў у зьмесьціва піражкоў. Ён еў іх, калі быў школьнікам, еў употай і з адчуваннем віны, як пасьля кароткага акту самазадаволеньня; еў у студэнцтве (дзікі голад!); еў і цяпер — шэф заўважыўшы гэта, не пацярпеў бы такой дыскрэдытацыі Канторы.

Гюнтэр прайшоў міма паштовай скрыні, выклікаў ліфт, потым усё ж вырашыў вярнуцца за поштай. Скрыня зазвычай высіжвала, акрамя спозьненай на месяц „Frankfurter Allgemeine”, самыя нечаканыя паперы. З пэўнага часу Гюнтэр пачаў знаходзіць у іх пасьлядоўнасьці загадкавы, але няўмольна блізкі да разгадкі сэнс. Скрыня пачала з рэклямных улётак: „Ремонт телевизоров. Дёшево”, „Установка железных дверей”, „Профессиональный фотограф обслужит свадьбы и юбилеи”. На такія паведамленні, поўныя прыхаванай пагрозы, Гюнтэр нічога не прадпрыняў, і тады скрыня перайшла да другога этапу барацьбы. Неяк Гюнтэр знайшоў у ёй адразу тры аднолькавыя брашуры „Путь к богу”, падрабязныя, з плянам маршруту і нават указаньнем прыдарожных рэстаранчыкаў. Зноў анічога зроблена не

было, Гюнтэр нават не набыў турысцкіх красовак, не гаворачы ўжо пра заплечнік і зборнік турысцкіх песьняў. Скрыня разрадзілася стосам абвестак „Будзьма разам! Збор на плошчы Мялеція Сматрыцкага ў 12.00”. Гюнтэр ужо зь цікавасьцю чакаў далейшага разьвіцьця падзеяў, і нейкі супэргюнтэр унутры падказваў яму, што сёньня скрыня пусьціць у ход самыя эфэктыўныя сродкі.

Ён з бразгатам адчыніў дзьверцу, і ў рукі яму скочыла, нібы замерзшы канчаткова, белая кагорта. У ліфце ён яшчэ намагаўся прылашчыць некалькі пухнатых маленькіх сумненьняў (паліклініка! бацька! ЖЭС! памылка!), але ўжо быў упэўнены...

„Дзяржаўны камітэт бясьпекі Эрбэ” — гаргоністае сонца напаўзакрывае мясьніцкі нож. Тое, што было ўнутры, яго асабліва не зьдзівіла: „Гражданину Сташуку Ф. А. Вам предлагается явиться в государственный комитет безопасности такого-то такого-то. К такому-то такому-то в такой-то кабинет. В случае неявки — такой-то штраф. Пропуск — в отделе пропусков. Подпись. Печать.” (вольны пераклад Гюнтэра Вальдхофа).

Нямеччына. Дагледжаная й пешчаная, як маё каханьне. Роўная фрызура садоў і сквэраў, лясістыя горы на даляглядзе. Спрэс экспрэсы, кава-эспрэсо, freie presse, рэсурсы Руру, пруская прыстойнасць, вабноты швабак — як доўга можна працягваць гэтыя цудадзейныя алітэрацыі! Права быць немцам, абавязак быць немцам, гонар быць немцам. Нямеччына, старажытная, юная, моцная, здаровая, пакутная, мудрая, рамантычная, геніяльная, родная; Нямеччына — у кветках і кнігах, у шкле і бэтоне, у травах і дрэвах, у жывой вадзе Рэйну, марская й горная. Плакаць ад шчасьця. Нямеччына.

## 7

Жаночы хор сьпявае ўсё вышэй і вышэй, і зараз разарвуцца галасавыя зьвязкі, і малочная скура на горлах, і тонкія тунікі...

Мэтро. Электрычка вылятае з тунэлю. У плексыглясе вакна яшчэ стаяць перакошаныя нянавісьцю твары тых, хто спазьніўся.

Усё пайшло сваёй чарадой: дзьверы праплавалі назвы станцыяў, горад у апошні раз спрабаваў спакусіць Гюнтэра, прыадкрываючы то левы свой бок, то правае апэтытнае сьцягно. Мармуровыя жанчыны зь сярпамі ў руках выконвалі на плятформах танец жывата, нібы вымольваючы ў пасажыраў хлеб. Па вагоне прайшоў нехта — ці то мужчына, ці то... — зь немаўлём на руках, дзіцё шчасьліва пасміхалася, гуляючы са сваёй вязкай спружыністай сьлінай, — Гюнтэр сунуў у валасатыя пальцы ўсе тыя беларускія грошы, якія ў яго яшчэ заставаліся. Канцавая станцыя скончыла гэты парад дзеепрыслоўяў.

Мэтай Гюнтэра былі доўгія, каржакаватыя фургоны, якія аблюбавалі сабе ўзбочыну на шашы каля лясочку, што наводзіў на думку пра атамны выбух. Недалёка быў міліцэйскі пост. Тупаносыя машыны тут былі пераважна нямецкага — Нямеччына! — грамадзянства, але трапляліся й польскія, галяндзкія, літоўскія. Гюнтэр ішоў праз бульбяное поле, і сымбалі Беларусі, як рукі нябожчыкаў, хапаліся за ногі, цягнулі ўніз. Наверсе прывітальна равелі грузавікі.

Выкрэсьліце мяне з усіх вашых сьпісаў! Раздайце чарнобыльцам мой паёк! Мама, спалі маё пасьведчаньне аб нараджэнні! Прыйдзіце за мной апоўначы, каб я мог зьесьці свой пашпарт! Хай вашыя рукі пакрыюцца язвамі ад атрутных выбарчых сьпісаў! Страўнікавая кісьлата размывае словы ў графах, подпісы й пячаткі. Забіце мяне, бо я — Гюнтэр Вальдхоф, і мая „Асабістая справа" — мая асабістая справа.

...Уціснуцца паміж двума вялізнымі кантэйнерамі аказалася досыць цяжка, да таго ж унутры быў люты холад. Хутка Гюнтэр быў ужо няздольны стрымліваць зубную, каленную, пальцавую і невядома яшчэ якую дрыготку. Ён намацаў у заплечнік тэрмас, адпіў крыху, паварушыў непаслухмянымі пальцамі на нагах. Высокія боты, хаця й былі абшытыя унутры воўнаю, сталі неўзабаве нібыта гэткія ж металёвыя, як кантэйнеры. Фура мусіла ад'язджаць аб адзінаццатай, абббадзін-н-наццатай, абббб...б-б-б...

Дзьверы адчыніліся, і вечар лізнуў яго халодным, мокрым языком. Проста ў вочы яму біў ліхтарык, сьветлякі, на якія распалася сьляпучае кола, кінулася адначасова ў ва ўсе куты на вобшук. На Гюнтэра зьнізу ўверх глядзеў чалавек у бейсболкі. Немец.

— Гэй, выходзь, — яшчэ не разнадзіўшы Гюнтэра як сьлед, панямецку сказаў чалавек. — Выходзь!

— Паслухайце, — сказаў Гюнтэр таропка, таксама па-нямецку. — Я дамовіўся... Вам не сказалі? Франц... Вы мусіце мяне зразумець...

— Ты хто? — запытаўся немец ужо цішэй, але ўсё яшчэ з насьцярогаю.

Гюнтэр хацеў сказаць усё, усё, але безабаронныя, хваравітыя пачуцьці, якія складаліся раней у галаве ладнаю кнігай, цяпер зьмерзліся ад страху: сабакадрот, вышказьвер, баракажах.

— Вы хочаце зьбегчы з краіны? — пачаў нешта цяміць немец і потым вымавіў гэткую доўгую і шпаркую фразу, што Гюнтэр не зразумеў нават просты дзеяслоў, які стаў на сваё законнае мейсца ў яе канцы.

— Паслухайце, не выдавайце мяне, — сказаў Гюнтэр з найпачварнейшым акцэнтам. — Я вам добра заплачу... долларс...

Ён пасунуўся бліжэй, немец адступіў на крок назад. Гюнтэр амаль закрычаў:

— Мяне чакае Нямеччына... Чакае як каханая жанчына, разумееце?

Немец апусьціў ліхтар і зачыніў цяжкія дзьверы. Гюнтэр апусьціўся на заплечнік. Кропелька поту, якая чамусьці нагадала Жэню, настойліва казытала жывот. Праз нябачныя шчыліны ў фургон забягалі раз-пораз палоскі сьвятла, суправаджаемыя кароткім шумам машыны за сценкаю фургона, праходзілі, як памежны патруль, па ўсёй столі й гасьлі недзе ў гушчы кантэйнераў. Дзесяць трыццаць.

На гэты раз дзьверы адчыніліся хутка і ўладна, зь лямантам, які задушыў малады і тонкі голас:

— Выходить, быстро!

Ён напраўду быў зусім юны, гэты міліцыянт у завялікай для яго форме, якую вечар пазбаўляў усякага колеру.

— Руки за голову! Вылазь, приехали!

Гюнтэр грузна саскочыў у лужыну, пасярэдзіне якой плаваў мёртвы месяц.

*Жнівень — верасень 2000*

# ПРЫБІРАЛЬШЧЫЦА.
# РАМОНТ ГАДЗІНЬНІКАЎ
# РАЙ
# ЛЕТА ДЭЗЭРТЫРА
# МЭТОДЫКА ВЫКЛАДАНЬНЯ КРАСАВІКА

## ПРЫБІРАЛЬШЧЫЦА

Субота, і прыбіральшчыца чакае гасьцей. Як рудое лісьце, на абрус падаюць плоскія прыгаркі ад яблычнага пірага. Нажом прыбіральшчыца сашкрабае іх з патэльні; сам пірог ужо стаіць у цэнтры стала, і па-над ім уецца цяжкая пчала. З сэрванту вынутыя пузаты графінчык з парэчкавай наліўкай і бутэлька гарэлкі — для мужчын.

Прыбіральшчыца змахвае прыгаркі ў вядро. Праз акно чуваць, як у двор заехала нечая машына, спынілася ля пад'езду, коратка і ўладна гаўкнулі дзверы, зазьвінелі ключы. Трэба заўтра памыць акно. Сонечным днём асабліва непрыемна кідаецца ў вочы, якое бруднае шкло пасьля зімы: усё ў восьпінках, прышчыках, між шыбаў кружляе пыл. З левага краю сінее кропля засохлае фарбы. Гэта сусед зьверху ў сакавіку абнаўляў балкон, відаць, і здзьмуў вецер кроплю з суседавага пэндзалю. Мусіць, акно яна памые, а кропельку чапаць ня будзе. Рэч у тым, што калі неадрыўна глядзець на гэтую сінюю кроплю і рухаць галавою прыкладна вось так, з боку у бок і зьнізу ўверх, то можна накіроўваць яе на якое-небудзь з вокнаў суседняга дому, або на ганак школы, або на ліхтарны слуп. Тады кропля будзе здавацца вялікаю, закрые сабой палову чужога акна, павісьне на слупе ўлёткай, пахавае пад сваім сінім цельцам адразу цэлы клас разам з настаўнікам. Гэткі вось аптычны эфэкт. Аптычны эфэкт. У гэты момант прыбіральшчыцы так хочацца, каб у вязкай цішы кватэры прагучалі два словы кшталту „аптычны эфэкт" ці „клапан замяніць" — важкія, грунтоўныя, як палічка, прыбіваемая ўпэўненай, валасатай, роднай рукой. Астатняе лёгка дадумаць самой. Ён прыходзіў бы з працы, стрымана вітаўся бы, з салідным рыпеньнем мыў цьвёрдыя далоні, а павячэраўшы, зьбіраў бы са стала ўсе крошкі і не згубіўшы ніводнай адпраўляў у рот. Прыбіральшчыца ўздыхвае і пасоўваецца да вузкага праходу паміж крэслам і сэрвантам. Тут яна спыняецца, схіліўшы

галаву. Азадак прыемна ўпіраецца ў выступ сэрванту, рабрыстая сьпінка крэсла масіруе жывот. Тут бы яна стаяла падчас вячэры, глядзела бы на ягоную ўжо крыху пасівелую патыліцу, бачыла б, як працуюць моцныя шчокі. Яна дазваляла б яму паліць на кухні. За сьцяной гадзіннік б'е сем. Значыць, гасьцям час зьяўляцца. Прыбіральшчыца выцірае рукі й садзіцца за стол. Будуць толькі свае. Яны зазвычай гэткія пунктуальныя. Прыбіральшчыца заплюшчвае вочы.

Першым прыходзіць Леанід — гэтак яна яго называла, прычым імя прылучалася адразу ж. Яна неяк стаяла ля парку і ўсміхалася ў кветнік, гледзячы на кінутае кімсьці плюшавае шчанё. Леанід таптаўся паблізу, пазіраў на яе і ўдаваў, што нехта спазьняецца з ім на сустрэчу, потым наважыўся, падыйшоў, запытаўся, заікаючыся: „Не падкажаце... тут спортклюб...” Яна была зачараваная ім, ягонай футболкай з кароткімі рукавамі, і яна стаяла, нічога не адказваючы, захопленая, як шчанём. Так яны стаялі можа хвіліну, Леанід, відаць, палічыў яе за глухую, павярнуўся і пайшоў, а яна яшчэ, помніцца, доўга ўсміхалася яму ўслед. Потым яна сніла яго колькі разоў і нават набыла яму кашулю з натуральнае шэрсьці.

Наступнай завітвае сяброўка. Імя ёй прыбіральшчыца так і не прыдумала — якое ні вазьмі, ніводнае не пасуе. Гэта здарылася зімою. Яна толькі прыйшла, зьняла халат, і тут армагедонна зароў званок... здалося, што ўключыўся, скінуўшы пыл, тэлевізар, што выскачылі з шуфлядаў і затачылі, непрыстойна торгаючыся, відэльцы і лыжкі, што абрынулася столь, пад якой жаласьліва віскнула жырандоля. Аглушаная, прыбіральшчыца адамкнула дзьверы. Гэта была кабета з хрысціянскага саюзу, яна раздавала маленькія, падобныя на пашпарты, бібліі й збірала грошы на пабудову храма. Кабета гаварыла светлым, пяшчотным голасам, такія галасы могуць нараджацца толькі ў жыватах цяжарных. Прыбіральшчыца глядзела на яе і думала, як добра было б гутарыць з такой сяброўкай пра кветкі, удыхаць дымок яе тонкай цыгарэты, хадзіць на шпацыр у парк па нядзелях. Кабета яшчэ пыталася пра нешта, пастутова голас цямнеў, а прыбіральшчыца маўчала — яна ўжо прыдумвала сяброўцы імя. Тая пастаяла яшчэ, пазначыла нешта ў сшытку і пачала падымацца на наступны паверх

А вось і Інакенцій Мікалаевіч зайшоў, Кеша, гэтак яна яго называе, і ён зусім ня крыўдзіцца. Кеша прыйшоў, і будзе весела сёньня ў іх маленькай сям'і. У той дзень прыбіральшчыца йшла з працы, на лаўцы сядзелі некалькі мужыкоў, і адзін зь іх пад бляск сваіх залатых зубоў хваліў некага з правадыроў, даўно памерлага. Яна падзівілася, як спрытна гэта ў яго атрымліваецца: хваліць-хваліць, але блісьне золатам з-пад тонкіх губ, і герой-вызваліцель адразу займеў

клоунскі нос, і распаўзаюцца ягоныя пантофлі, і скура ператвараецца ў парусіну. Жартаўнік Кеша заўважыў, што прыбіральшчыца глядзіць на яго, і нечакана падміргнуў... Паліліся лёды з рук дашкалятаў, сонца зайграла на вершалінах таполяў, струменьчік поту гнуткім пальцам упаў пад спадніцу... Яна была закаханая ў яго тры, не, чатыры дні, але цяпер яны сябры, чуеш, Кеша, ся-бры.

А Галі пакуль што няма. З ёю прыбіральшчыца пазнаёмілася, калі страціла аднойчы прытомнасць у парку, страціла невядома ад чаго, як губляюць тэлефонную картку. Над ёй схіліўся дзявочы твар, Галя дапамагла ёй падняцца... „Вам кепска?”... і з пачуцьцём выкананага доўгу дзяўчо пабегла да тралейбусу. Відаць, у Галечкі сёньня іспыт або кансультацыя, усё ж чэрвень, экзамэнацыйная сьпёка.

Субота, і прыбіральшчыца прымае гасьцей. За сцяной, у камодзе пад гадзіннікам ляжаць старыя часопісы, нажніцы і клей. Заўтра трэба памыць акно. А ўвечары яна пойдзе ў парк, вернецца, і можна будзе зноў узяцца за выразкі. Прыбіральшчыца адплюшчвае вочы, вусны яе скажае млявая ўсмешка.

Дабранач, госьці, да наступнай суботы!

*1998*

## РАМОНТ ГАДЗІНЬНІКАЎ

Талёнчык у руцэ Рамонта Гадзіньнікава ўжо пасьпеў ператварыцца ў жменю мокрага драўлянага пылу, калі аўтобус „Цэнтр — Затрамвайшчына” урэшце падпоўз да канцавога прыпынку. Спатыкнуўшыся аб выцягнутую ўпоперак праходу нагу кіроўцы, Рамонт невядома чаму ўдаў на твары вінаватасьць і лёгка саскочыў на родную зямлю. Пачуцці перапаўнялі яго; тэстамі ён растлумачыў прадаўцу бліжэйшага шапіка, што хоча набыць цукерак, расплаціўся і пашыбаваў далей, да шэрых з жоўтымі плямамі будынкаў, якія віднеліся за аўтастаянкай.

Гаварыць ён быў няздольны, гэткая тоўстая радасьць сьціснула яму горла. Вочы прагна паглыналі наваколльле. Тут, па гэтай вуліцы, яго некалі імчала з роддому таксі, і ўвесь сьвет быў для Рамонта толькі бацькавым чырвоным шалікам, тут ён некалі быў забіты каменчыкам, калі гуляў у вайну зь Пятровым і Вераб'ём. Тут. Тут. Тут. Толькі пасьля таго, як Рамонт зьехаў з Затрамвайшчыны, да яго дайшло, што дзевяціпавярховыя будынкі, у якіх яны жылі, былі калісьці пастамэнтамі гіганцкіх помнікаў. Затым помнікі зьнеслі, у пастамэнтах прарубілі норы, правялі электрычнасьць, газ, вадаправод і аддалі пад жытло рабочым затрамвайшчынскіх заводаў, якія і сталі першымі жыхарамі новага мікрараёну.

Рамонт павярнуў направа і пайшоў уздоўж самага вялікага з дамоў. Асфальт быў усыпаны бітым шклом і таполевым пухам. Шкельцы раз-пораз успыхвалі на сонцы.

Ужо па тым, як Рамонт перастаўляў ногі і як вісела на ягоным плячы валіза, кожны мог здагадацца — гэты чалавек у нечым моцна вінаваты. Калі сустрэчныя зазіралі Рамонту ў твар, яны бачылі, што вінаватасьць застыла нават у выгіне ягонага падбародзьдзя, у пухнатасьці вейкаў, і са спачуваннем глядзелі яму ўслед. Рамонт заўважыў гэта, і раптам ягоная радасць ад вяртаньня дамоў, ад чуласьці землякоў, ад стракатаньня конікаў у траве пад ліхтаром, ад адчування сваёй віны ўскіпела і Рамонт расплакаўся. Ён уявіў сабе цёплы хатні лінолеум, і ягоныя слёзы, якія пачалі сціхаць, паліліся з новай сілай, надаючы жуйцы ў роце агурковы смак.

Усё яшчэ плачучы, Рамонт увайшоў у пад'езд і націснуў ілбом кнопку ліфта — успомніў школьную звычку. Жалезная таблічка абвяшчала: „Шануйце ліфт!”. Напэўна, трэба было напісаць „Беражыце”, але такое пяшчотнае стаўленьне да ліфта як да героя-вэтэрана спадабалася Рамонту. Апынуўшыся ў ліфце, ён адчуў сябе нібыта ў жываце найшаноўнейшай істоты, і Рамонта зноў захлынуў прыпадак

радасці. Ня вытрымаўшы, недзе каля сёмага паверху Рамонт спыніў ліфт і доўга цалаваў кнопку з лічбай „сем". Ён усё яшчэ плакаў; ён браў кнопку то цалкам у рот, то лёганька пакусваў зубамі, то пакрываў дробнымі пацалункамі яе куточкі.

Нарэшце ён выскачыў зь ліфта і кінуўся да дзвярэй сваёй кватэры. Булькатаньне званку... Яно заўсёды прыносіла Рамонту супакаеньне, быццам ён ціха псаваў паветра падчас сямейнай вячэры. Званок быў дамавіком — флегматычным, дзелавітым, вечным. Аднаго разу, калі Рамонт быў яшчэ малым, званок забулькатаў хрыпла і млява — прастыў, але бацька хутка вылечыў дамавіка. Булькатаньне званку... З расчараваньнем Рамонт зразумеў, што бацькі, мусіць, паехалі ў вёску, яны зазвычай рабілі гэта двойчы на месяц. Трэба запытацца ў суседкі Вадзімаўны, ці няма ў яе ключоў.

— Рамонцік!!! — вось за гэта Рамонт і не любіў Вадзімаўну, за гэты лямант, які доўга яшчэ гучаў на ніжніх пляцоўках, за гэтую звычку засоўваць ягоную галаву паміж сваіх неабсяжных грудзей, за клапатлівую паспешлівасьць, зь якой яна клала ў яго рот карамэлькі, паіла гарбатай і дапытвалася, кім ён стане пасьля школы.

І вось ён ужо сядзеў на кухні Вадзімаўны, піў зялёную гарбату і глядзеў на затрамвайшчынскія прасторы. Голуб сеў на падваконьне, рэзка паматляў галавой, правёў кіпцем па блясе і нечакана імкліва зьнік у сваіх стратасфэрах. Рамонт пасьпеў заўважыць, што да лапкі голуба была прымацаваная паперка. Паштовы голуб. Вінаваты Рамонт Гадзіннікаў. Рыпенне галубінага кіпця па блясе. Родная Затрамвайшчына засталася гэткай жа, якой ён яе пакінуў васемсот? Дзевяцьсот? Недзе ў патаемных кнігах запісана, колькі год таму. У цягучым бялку паветра плыве жаўток аўтобусу. Краявід назірае за Рамонтам, нахіляецца, калі нахіляецца за печывам Рамонт, і скручваецца з хуткасцю сьвятла ў маток скотчу на крэсле, калі Рамонт адварочваецца ад вакна.

Прыйшоў муж Вадзімаўны — дзядзя Бора. Ён стрымана паціснуў Рамонту руку, запаліў цыгарэту, і, страсаючы попел у фортку, пачаў вымаць з пакету прадукты: каўбасу, масла, кефір, кансэрвы, яйкі і тры пляшкі гарэлкі. Рамонт маўкліва глядзеў на ўсё гэта... і калі высьветлілася, што дзядзя Бора забыў набыць хлеб, Рамонт чамусьці сказаў: „Давайце я збегаю", хаця нікуды бегчы яму не хацелася, а хацелася легчы на мокрую анучу ля дзьвярэй сваёй кватэры і чакаць бацькоў.

Рамонта апанавала надзвычайная млявасьць, ён пайшоў у краму, набыў хлеб, знаёмая прадаўшчыца не пазнала яго. Вяртаючыся назад, ён ішоў як пашкоджаны робат і паводле ім самім выведзеных

законаў сустрэў чалавека, якога не хацеў бачыць ні пры якіх умовах — свайго школьнага настаўніка.

Гэта был фатальная сустрэча. Рамонт заўважыў настаўніка ўжо тады, калі той набліжаўся, распрасьцершы рукі і нешта галосячы. Крыўдна было, што Рамонт не памятаў ні імені настаўніка, ні мянушкі, ні прадмету, які той вёў. Настаўнік абсыпаў Рамонта сваімі „вазмужалі", „какжывёшамі" і „гдзетышчасамі". Рамонт хацеў пакорліва прамаўчаць, але замест гэтага рот яго раскрыўся і ён вымавіў: „А вы як, Генадзь Генадзьевіч, як здароўе-настрой?" Ды толькі лішняе гэта было — Рамонт быў ужо з галавой пахаваны па кучай какжывёшаў.

Разгрэбшы іх, Рамонт убачыў, што настаўніка ўжо няма. Не было і бацькоў. Рамонт адчыніў дзверы ў кватэру Вадзімаўны (яны замыкаліся толькі на ноч) і адразу ж наступіў на нечую пантофлю. Уся вітальня была застаўленая абуткам, з кухні даносіўся радасны віск Вадзімаўны. Рамонт увайшоў на кухню, стол, за якім ён піў гарбату, быў выстаўлены цяпер на сярэдзіну пакоя. За ім сядзелі дзядзя Бора, настаўнік Генадзь Генадзьевіч, кіроўца аўтобуса, на якім Рамонт прыехаў сюды і яшчэ чалавек шэсьць суседзяў, імёнаў якіх Рамонт не ведаў, хоць і пражыў з імі ў адным пад'езьдзе сямнаццаць гадоў. Трохі воддаль ад стала сядзеў Бязногі з суседняга дома, уцёршыся сьпіной у сьцяну, на якой вісеў леташні каляндар. На чале стала сядзела Вадзімаўна, гучна распавядаючы пра нейкіх Дур. Мужчыны маўчалі, засяроджана жуючы і гледзячы кожны ў сваю талерку. Чвяканне і ціхае пагрукванне відэльцаў на дзіва ладна траплялі ў такт аповеду Вадзімаўны. Рамонт заўважыў, што ўсе мужчыны апранутыя ў чорныя фракі, а на Вадзімаўне доўгая сіняя сукенка з глыбокім выразам. На Бязногім таксама быў фрак, „бабачка" і белая кашуля, ён нагадваў верхнюю частку манекена, разрубленага напалову.

— Сядай, Рамонак, сядай, любенькі, — завішчала Вадзімаўна. — Бацькі твае, мусібыць, толькі заўтра прыедуць-та!

Рамонт сеў на падрыхтаванае яму месца, парэзаў на лусты хлеб, узяў відэлец і стаў паўнапраўным музыкантам гэтага аркестру.

Пілі часта, елі шмат. Рамонт не п'янеў, і толькі калі запаліў, цяжкое затрамвайшчынскае неба звалілася яму на галаву, вочы праваліліся ўглыб вачніц, і цяпер ён бачыў кухню нібы салдат з акопаў. За вакном сьцямнела, струмені тытунёвага дыму ўздымаліся да столі і там ганяліся за зграямі камароў. Сьвятло лямпачкі раз-пораз дрыжэла; пад падлогай, на паверсе ніжэй, нехта пачаў свідраваць сьцяну. Рамонт сядзеў, засунуўшы рукі амаль па локаць у свой зьмякчэлы лоб і зьвесіўшы галаву ў талерку. Ён адчуваў, як вібруе ягонае сэрца ад гуку электрадрэлі; ля ягонага вуха раптам зарохкала труба

вадаправода ў ванным пакоі. На кухню нясьмела ўвайшлі нейкія дзеці, колькі іх? Рамонт пачаў лічыць, але хутка зьбіўся. Бязногі залівāў у сябе гарэлку мэтадычна і маўкліва, ён піў ужо адзін, Генадзь Генадзьевіч гуляў з дзядзям Борам у карты. Вадзімаўна дастала з-пад стала яшчэ гарэлкі, аддала дзецям Рамонтавы цукеркі і потым, чамусьці раззлаваўшыся, пачала гнаць іх спаць. Дзеці заплакалі ціха і пакорліва, аднаго з іх укусілі за палец ажылыя дзверы, ён упаў ніцма і, скурчыўшыся, неяк фальшыва закрычаў нечалавечым голасам. Дрэль юрліва залівалася пад падлогай, кіроўца пачаў з Вадзімаўнай спрэчку, Рамонт горача падтрымаў кіроўцу. Тэма спрэчкі была жыцьцёва важнай, Вадзімаўна не хацела прызнаваць сябе пераможанай, яна стаяла ля пліты як палонная прынцэса і адказвала на выпады — Рамонту ветліва і з мацярынскай цярплівасьцю, а кіроўцу з усякімі нядобрымі словамі. Рамонт крапаў уніз і ўтвараў роўныя лужынкі вакол талерак і кілішкаў.

— А давай мы яе на пліце спалім, — крапнуўшы

ў бок Вадзімаўны, прапанаваў Рамонт новаму сябру.

— На што? Давай яе лепш, — адказаў кіроўца, прымружыўшыся.

Затым яны цалаваліся на пляцоўцы, тыкаючы запаленымі цыгарэтамі адзін у аднаго. Новы сябра Рамонта быў лепшым чалавекам у сьвеце, самым адданым, моцным і разумным. Рамонт даверліва клаў галаву яму на плячо, нібы піў настой на скуры, бензіне і малацэ. Затым былі нейкія дзеўчыны, была Эвушка-Дэвушка, якая умела граць на гітары і якую кіроўца ледзь не за валасы выцягнуў з дому, дазволіўшы апрануць толькі швэдар. Прыхапіўшы з сабой Эвушку, яны пайшлі катацца на аўтобусе. Пакуль пералазілі праз агароджу аўтапарку, пакуль кіроўца адмыкаў дзверы, Рамонт цьверазеў у прахалоднага бэтоннага слупа. Эвушка ж наадварот, частуючыся маленькімі глыточкамі прынесеным кіроўцам пітвом, развесялела, кідала на Рамонта пагардлівыя позіркі і называла кіроўцу „Валерка". У Рамонта забалела галава, забалела рэзка і страшна, нечая чорная пралетарская рука праз кожныя пяць сэкундаў размашыста біла ў чыгунны Рамонтаў чэрап, другая ж рука, інтэлігентная і ружовая, далікатна калола Рамонта ў мазжачок. Аўтобус выехаў на шашу. З палёгкаю Рамонт заснуў на карычневым сядзенні. Неба па-над Затрамвайшчынай паружавела. Рамонт уткнуўся шчакой у пупырчатая сядзенне, а калі перавярнуўся ў сне на другі бок, уся яго левая шчака была ў гідкіх чырвоных кропках. „Задрымала абмакашка," — прамармытала Эвушка, тупа гледзячы на мокры асфальт, які бег наперадзе.

*1988*

## РАЙ

Рай — гэта сьвет школьных тэмаў па замежнай мове. Памятаеш: гатычныя літары за шклом шафаў, смак жоўтае крэйды ў роце, пах мокрага дрэва вымытай падлогі, Атлянтычны акіян за універсамам. Хто сёньня будзе распавядаць пра рай?

Рай — гэта сьвет школьных тэмаў па замежнай мове. Там жывуць якія-небудзь Отто і Моніка — першыя людзі на зямлі. Яны сядзяць у пустых сьветлых і шырокіх клясах, па-іншаплянэтнаму прыгожыя, зь ненатуральнымі ўсьмешкамі да вушэй. Яны ганяюцца адно за адным па бібліятэцы, набітай да самае столі цалюсенькімі кнігамі, якія яшчэ пахнуць фарбаю друкарні. Яны жывуць у трохпакаёвых кватэрах, дзе маюць па вечарах пісьмовыя сталы. Апрача сталоў і сьцяны з паліцаю яны маюць часам бацькоў, непітушчых інжэнераў і таленавітых прадаўцоў. Зімой яны бегаюць на лыжах і каньках. Моніка чапляецца за правую лыжыну Отто і прарубае сківіцай ў лёдзе агромністую скважыну. Отто працягвае сяброўцы руку і яны, сьмеючыся, бягуць скакаць з трампліну на праезджую частку.

Летам дзеці едуць да бабулі ў вёску, зьбіраюць грыбы, купаюцца, загараюць. Отто шчыпае пад вадой Моніку за жывот, Моніка казыча травінкай пятку Отто, які й загараючы не забываецца змайстраваць мадэль мінаносца альбо бамбардыроўшчыка. А вось з кулаку Отто вылятае раптам мокры баравік. А гэта Моніка падносіць да вуснаў махнатую агрэсьціну.

Зьнянацку зьяўляецца нейкі ці то Генрых, ці то Клаус, абсалютна непатрэбны ў гэтай ідыліі, і прапаноўвае дзецям пералічыць яблыкі. Дзеці з абурэньнем адмаўляюцца і прылежна ідуць далей — шчэрыць беласнежныя зубы, прылежна майстраваць мінаносцы і прылежна, ні на каліўца ня менш прылежна сьпяваць ля вогнішча звонкія песьні. Рай — гэта сьвет школьных тэмаў па замежнай мове. Пасьля смерці я хачу трапіць туды.

*1997*

## ЛЕТА ДЭЗЭРТЫРА

Я прачынаюся — голы, раптам.

Побач са мной сьпіць мая жанчына.

А некалі тут, вось у гэтай жа хаце, я мог бы прачнуцца ад крыку пеўня ці неўмаляцi. Па гэткай жа зямлі я выйшаў бы на двор спраўляць начную малую патрэбу, і гэткі ж гарачы струменьчік ударыў бы па траве, і ногі ўтапалі б у гэткай жа халоднай расе.

А можа, прачнуўся б я вясковым блазнам, патэпаў бы па вуліцы, падскокваючы, і звалі б мяне Мармытка. Спусьціў бы Мармытка агністых сабакаў на хату каханай, гаспадыні загуменных мараў, ды бегаў бы вакол, енчачы: „Ыблыду! Ахрузе! Піньсіляч!”. І забілі б аратыя Мармытку, а хутчэй пакінулі б жыць — усё ж адзіная забава...

Прачнуцца я мог бы і ксяндзом, але не думаў пра гэта я, калі а пятай раніцы

Прачынаюся — голы, раптам.

Побач са мной сьпіць мая жанчына.

Ты прачнулася б на калючай мужнінай руцэ, і локаць звычна ўпіраўся б у сцяну, і вочы з покуці глядзелі б на цябе гэтак пажадна.

Згадала б ты, як адчыніла ўчора студню, а там Мармытка крывенькі сядзіць і цісьне зь сябе:

„Пхе-п-пгыгожая ты...” За вакном у смузе цябе чакала б, рохкала, рыкала, каласілася пхе-ппгаца, разгараўся б панядзелак, і была б нуднай, бясконцай, тужлівай твая п-п-пхесьня.

Легла б ты, узяла чырванаваты месяц, паклала б паміж грудей і лашчыла б яго ў вышчарбінках.

Мышыны шоргат. Ты сьпіш летам дзвюхтысячнага года на тонкай руцэ дэзэртыра.

Гэты месяц называюць па-кітайску — І Юнь. Я еду ў краму па цыгарэты й шакалад. Ровар рыпіць на ўсыпанай гальлём сьцежцы, дзынкае званок. Хачу пасьпець да таго, як ты прачнешся, каб заслужыць... Ну, ня тое каб тваю радасьць, ня тое, каб пацалунак, а вібрацыю ў ва мне адмысловых аналізатараў, створаных для ўспрымання выключна цябе. І ў цябе ёсьць такія, я ведаю, мінулай ноччу я выпадкова апынуўся сам-насам з гэтай мілай аднаклетачнай істотай, і мы доўга моўчкі глядзелі адно на аднаго.

Еду на ровары. На шляху дахаты трэба нарваць табе гэтых пыльных прыдарожных кветак. Сёньня дзесяты дзень, як я прыехаў сюды, дзесяты дзень цябе, возера, сонца, лесу, ветру, ажынавага соку, пяску паміж пальцамі ног, дзесяты дзень бароў і бараў. Штодня пачуваюся ўсё бясьпечней, а першы час баяўся выходзіць на двор, пляж

жа наогул быў недасяжны, неда... Цяпер еду ў краму па цыгарэты і шакалад, і толькі сьцерагуся шашы — яна багатая на крутыя павароты, едзеш вось так, дыхаеш, а тут яны, „сардэчна запрашаем”, сьмяюцца, паляць, верхні гузік расшпілены, плямы поту пад пахамі на форме. Баюся, баюся, што залямантуе зялёны дзіцёнак страху, а яны пачуюць.

Паеду я лепей лясною сцежкай. Я люблю сваю жанчыну, я люблю яе любіць, люблю добрыя цыгарэты, люблю смачна пажэрці і выпіць, люблю спаць колькі захачу, не спаць, колькі захачу, люблю, калі любяць мяне. А яны кідаюць мне ў пысу маё прозьвішча — нібы б'юць чалавека ў акулярах: акуляры паднялі з запляванай падлогі барака, памачыліся на іх, удзелі ў мяккую ахвяру, „пжалста вашы ачочкі!”, а потым нагамі, нагамі, з дзіцячым задавальненьнем. Потныя плямы пад пахамі мусяць быць памерам восем см на шэсць см, за парушэньне — шпіцрутэны, за парушэнне — роля палоннага фашыста ў карціне „Помста” (толькі для прагляду вышэйшым камандаваньнем). Паеду я лепей лясной сцежкай.

Еду на ровары. Скажы, ну як ім знайсці мяне сярод тысячаў кіламетраў, сярод дзесяці мільёнаў чалавек? Скажы, як? Скажы, яны не знойдуць мяне, не знойдуць А калі знойдуць, вінаваты ў гэтым будзеш не ты. Вінаватыя будуць сябры (прагаварыліся), яны ( ), бацькі (старая генерацыя). Толькі ня ты, каханы, ня ты.

Лес скончыўся. За турыстычным гатэлем бліснула возера. Возера называецца гэтак жа сама, як рэстарацыя на пагорку, як гатэль, як крама, як клуб, як увесь курортны пасёлак. Не падумайце, што гатэль, крама, рэстарацыя, клуб, пасёлак названыя ў гонар возера. Не, гэта возера названае ў гонар гатэля, крамы, рэстарацыі, клуба і пасёлка. Веру газэтам: гэта адбылося ў старадаўнія часы.

Тубыльцаў у краме няма, толькі касырка, астатнія курортнікі глядзяць на мяне ўважліва, упэўнена. Вочы самі апускаюцца долу, пальцы выбіваюць на вітрыне партыю бубнаў. Папяровая купюра ў руцэ стала такой мокрай: здаецца, кінь яе на сонечнае месца — і яна выпарыцца. Малпа ў чорнай майцы з такой цікавасьцю ўтаропілася мне ў сьпіну, быццам там таўро. Дзед у гімнасцёрцы і пінжаку жуе губамі і глядзіць на мяне неадрыўна, камарыны укус распаўзаецца па ўсім целе. Трэба бегчы, трэба ўскочыць на ровар, трэба ў лес, зваліцца ў суніцы, зарыцца галавой у мурашнік. І малпа, і дзед, і першаклясьнік, які спрабуе прыляпіць наклейку ад жуйкі да сонечнага зайчыка, — яны ж ведаюць пра мяне ўсё, і мінулае маё, і будучае, і касырка ніколі ня ўбачыць у ва мне мужчыну.

Не, фальстарт, уцякач! Малпа дапіла сваё піва, дзед запіхнуў у пінжак папяросы, першаклясьнік прыляпіў наклейку, і ўсе яны сыходзяць, сыходзяць, сыходзяць... Касырка ўключае радыё: „Гаворыць Мінск”.

*1997*

## МЭТОДЫКА ВЫКЛАДАНЬНЯ КРАСАВІКА

Я настаўнік, школьны настаўнік. Штодня шэсьць гадзін запар я паўтараю адно й тое ж, і на апошнім уроку з жахам узіраюся ў кветачныя твары дзяцей — чаму яны не сьмяюцца? Наша размова з клясаю вартая самай лысай спявачкі: „Урубель” — гавораць мне, і я парырую: „Шэхтэль”, „Бенуа” — „Сяроў”, „Барысаў-Мусатаў” — „Рэпін”, „Дасьвіданья” — дзе яны выкапалі такога, нейкі гішпанец, здаецца XV стагодзьдзе... Завісаю над журналам, падымаю вочы, у клясе пуста. Прадзіраючыся-запальваючы-кашляючы скрозь хмызы на школьным двары, я пераможна шапчу: „Пятроў-Водкін!!!”

Я настаўнік, школьны настаўнік, я іду дахаты, я здымаю гальштук як нябожчык пахавальную стужку, і ніхто ня можа давесьці мне ў гэты момант, што арнамэнт на маім гальштуку — гэта не заіерогліфаваны надпіс: „Дарагому А. Ад сяброў і каханак”. Сьвет поўны цудаў. Джынсы, куртка, клюб — я нажыраюся там да... не, прабачце, я ўсё ж настаўнік, нажыраюся там абсалютна спакойна, бо заўсёды знойдзецца побач добрая душа, якая закіне цябе ў насілкі таксі ды яшчэ зробіць кіроўцу санітарскі каптурок з залітых півам рублёў. Funtime.

Я добры й глупы, са сваімі звычкамі — ну вось, напрыклад, я люблю чытаць Томаса Мана, седзячы на ўнітазе. І толькі такое цёмнае стварэньне, як мая кватэрная гаспадыня, можа называць гэта абразаю для паважанага мною немца. Наадварот, мілая фрау Клюшкевіч, усё наадварот: гэта я дэманструю, што не магу ні на хвіліну адарвацца ад любімага чытаньня. Сумяшчаць прыемныя заняткі — гэта звычка, якой зь мяне ня выбіць нават будучай жонцы. Не магу есьці без цыгарэты, спаць без ката, піць бяз музыкі, абіраць бульбу бяз і г. д.

Але падумай, мілая, ці можна дазволіць пазбавіць сябе цноты гэткаму, як я? З гэтага роту кепска пахне, тузін маіх хваробаў прытаіўся перад тваёй брамай, і адна зь іх ужо праціскаецца наперад у чаканьні ночы. І толькі грошы мае, іх кранальная колькасьць, знаходзіцца ў поўнай гармоніі з тым чыстым водарам, які яны выдзяляюць.

Ніхто не зарабляе грошы гэтак сумленна, як я, і ніхто не траціць іх гэтак брудна.

Я дзяўчынка-журавінка, дзяўчо-зайчо. У мяне ёсьць радзімая плямка ўверсе сьцягна, паміж палярным колам жывата і вострай костачкай. Гэтую плямку бачыла пакуль толькі маці. Я мала фарбуюся, і таму Юлька гаворыць, што я яшчэ ня баба, а падлетак. Ды я ведаю: гэтая плямка — яна, значна большае багацьце за ўсе юлькіны тырчалкі. Яшчэ я ведаю, што гэтую плямку хутка трэба будзе камусьці падарыць, і спакойна чакаю. Мы зьбіраемся зь дзяўчатамі на ўсялякія народзіны ды аганькі, выходзім паліць у парк амаль штовечар, забягаем адна да адной нібыта на „каву”, мама-доктар, что ж такого? Але сапраўдных сяброўак я, выходзіць, і ня маю. Больш за ўсё мне падабаецца зьмяіцца ў фатэлі, з нагамі, паклаўшы на калені прахалодную, шурпатую кнігу, папіваючы сухое віно з бацькавай бутэлькі і начэсваючы шыю мужыку № 2 у нашай кватэры — Джэку. Для ідыётаў: Джэк — мой сабака. Я буду сёлета паступаць. На платнае.

Я йшла на курсы ангельскай, проста йшла, дыхала вуліцай, ішла, to go, to run, to rush, да Дому рэспублікі было ўжо бясьпечна блізка, я й ня ведала, што маятнікі завушніцаў, якія нячутна адлічвалі сэкунды па ахайна закладзеных за вушы валасох, даўно грукочаць у ягонай галаве шаманскімі бубнамі. Ён хістаўся, ён ішоў проста на мяне. „Добры дзень траляля Іванавіч,” — сказала я, як сапраўдная дзяўчынка-журавінка. „Прывітанне,” — сказаў ён і няўклюдна, быццам хацеў сагнаць муху з маіх грудзей, тыкнуў мяне ахапкам гвазьдзікаў. Мы моўчкі пайшлі поруч, Дом рэспублікі спрытна ўвярнуўся ад нас, падалей ад грэшнікаў, і застаўся ззаду. „А які ваш любімы мастак, Траляля Паўлавіч?” — спытала я, гледзячы ўніз, у цокат чаравікоў. Ён ці то закашляўся, ці то засмяяўся, а потым сказаў глуха й падступна: „Хасэ Эмануэль Дасьвіданья, чула пра такога?”. Ха-ха. Я сказала чаканае „не”, і ён з гатоўнасьцю падхапіў: „Хадзем, тут блізка”. „Курсы,” — сказала я, хаця тут ужо нават даун з адзінаццатага зэ ўцяміў бы, што курсы сёньня адмяняюцца. „Хіба я не педагог?” — усклікнуў ён опэрным голасам і ўзяў мяне за руку.

Бегаў, зварыў мярзотную каву, кашляў, глытаў макроту, паліў без супынку. Потым пачаліся мэтамарфозы: шафа стала дзьвярмі, у якіх намалявалася бабулька з зашмальцаваным рушнікам і прадрапала: „Калі ноччу захочаце ў туалет, дзевушка, рабіце проста ў вядро, я на раніцу вынесу”. Метамарфозы працягваліся. „Ня трэба, траляля Пятровіч”. Кветкавы гаршчок стаў попелкаю, тэлевізар — сталом, цьмяная лямпачка ўверсе — загадкавым сталактытам, ён —

заснулым на маіх каленях алкаголікам. Іспанскі мастак і канкістадор Хасэ Мануэль Дасьвіданья маркотна глядзеў на мяне са сьцяны.

Я настаўнік, школьны настаўнік...

Я дзяўчынка — журавінка, дзяўчо-зайчо...

Дык чаго ж мы гэтак хочам адно ад аднаго?

*2000*

**ЗЬМЕСТ**

ПАРАЗЫТ
ГЮНТЭР ВАЛЬДХОФ
ЯГО КРЭДЫТОРЫ
ПРЫБІРАЛЬШЧЫЦА
РАМОНТ ГАДЗІННІКАЎ
РАЙ
ЛЕТА ДЗЗЭРТЫРА
МЭТОДЫКА ВЫКЛАДАНЬНЯ КРАСАВІКА

Літаратурна-мастацкае выданьне
Альгерд Бахарзвіч
Практычны дапаможнік па руйнаванні гарадоў
(Проза 1997-2001)
Сэрыя SCHMERZWERK
Куратары выдавецкага праэкту Ільля СіН і Зьміцер Вішнёў
Рэдактар В. Акудовіч
Афармленьне і вёрстка С. Ждановіч